PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 21 (1932) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 23 МАЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.



*Сакольская парода.* **Фота з архіва**

## СЁННЯ Я ЦЯБЕ ПРЫКОНЧУ

11 красавіка дзевяноста другога года, каля 16-тай гадзіны, на століку дзяжурнага афіцэра Раённай камендатуры ў Гайнаўцы забрынкаў тэлефон. Паведамляў камендант камісарыята ў Нараўцы — Рыгор К., жыхар Нараўкі, тыркнуў нажом у спіну сваю жонку, чым і прычыніўся да яе смерці. Смерць пацвердзіў лекар, які прыбыў на месца здарэння. Нож прабіў (як пазней выявілася) лёгкія ды закрануў аорту, разрэзаўшы яе. У грудную поласць бухнула кроў — ахвяра задушылася. „Калі б не гэты крывацёк, — гаварыў пазней судовы лекар, — паўстрымаць яго практычна немагчыма, ахвяра мела б шанц выжыць".

Рыгор К. ажаніўся ў шэсцьдзесят шостым годзе. Яго жонка мела ўжо ў той час двухгадовага сына Пётра. У сям'і нарадзіліся яшчэ тры дачкі. Увесь час Рыгор К. жыў у доме, які супольна займаў з жончыным братам Мікалаем. Пасля смерці Мікалая адну частку дома нададзелі займала яго жонка Ніна і дачка Анна. Тая апошняя, праўда, пару гадоў таму выйшла замуж і перасялілася, але сваю маці наведвала прынамсі раз у месяц.

Абедзве сям'і мелі асобныя ўваходы ў супольны дом. Суседзі з-за сцяны добра ведалі адносіны ў сям'і Рыгора К. Сужыццё там не было занадта добрае. Часта чуваць было адтуль спрэчку, якую па-п'янаму выклікаў Рыгор. У час гэтых спрэчак Рыгор не толькі лаяў жонку, але і біў яе — сведкамі гэтых сцэн неадночы былі дзеці, а суседзі бачылі пазней пасінячаную Рыгораву жонку. Бывала, калі Рыгор вяртаўся нападпітку дадому, дзеці хавалі ад яго нажы ды ўсё, што было ў хаце вострага. Авантуруючыся, Рыгор закідаў жонцы, што тая быццам бы здраджвае яму — следства закідаў гэтых не апраўдала. Выявіла яно затое, што жонка Рыгора была ціхманай жанчынай, дбала пра дом і дзеці дый любіла свайго мужа і таму, здаецца, прабачала яму ўсе гэтыя сямейныя калатнечы.

11 красавіка зранку Рыгор падняў вэрхал — папярэдняга дня, казалі суседзі, ён вярнуўся ў нецвярозым стане. Выйшаўшы з дому, Рыгор падаўся ў мясцовы рэстаран. Там у кампаніі сябраў піў гарэлку і піва. Пасля абеду пакінуў рэстаран, вярнуўся дадому, узяў ровар і паехаў у Гродзіск — да сваёй маці. Падалася за ім жонка — каб бараніць цешчу ад авантуры. Рыгор фактычна авантураваўся на панадворку свае маці. Паводле брата Рыгора, прычынай для спрэчкі былі грошы. Рыгор злаваўся, што маці нібыта дае грошы ўсім сваім дзецям, толькі аднаму яму не. У час гэтай спрэчкі Рыгор зваліўся на зямлю і праспаў там некаторы час. Калі абудзіўся і даведаўся, што была тут і ягоная жонка, заявіў: „Паеду і прыкончу яе". Вяртаючыся каля 15-тай гадзіны дадому, гаварыў сам з сабою ды лаяўся. У хаце стаў ізноў авантуравацца. Суседка з-за сцяны, пачуўшы „Ратунку", збегала туды, каб пабачыць, што такое дзеецца. У сенцах на падлозе ляжаў п'яны Рыгор, а над ім стаяла жонка і намагалася яго супакоіць — „Што такое я табе ў жыцці зрабіла, што ты на мяне так злуешся". Рыгор не супакоіўся, падарваўся з падлогі, схапіў жонку і адапхнуў яе — тая праляцела з сенцаў у летнюю кухню, што стаяла як прыбудоўка да дома. Сам зачыніўся ў сенцах. Суседка забрала Рыгораву жонку на сваю палову панадворка. Гэтым часам Рыгор пабіў шыбу ў пакоі свайго пасынка, выйшаў на панадворак і сказаў, што зрабіла гэта яго жонка. Затым падаўся ў хлявок, адкуль выйшаў з сякерай і накіраваўся ў бок дома. Суседка параіла Рыгоравай жонцы, каб тая не ішла дахаты — сама вярнулася ў сваю кватэру. Праз некаторы час, калі ізноў выйшла на панадворак, Рыгоравай жонкі там ужо не было. Ляжала затое сякера — дзеці, што гулялі непадалёку, сказалі, што гэта жонка Рыгора яе туды паклала. Праз пару хвілін суседка і яе дачка пачулі праз сцяну голас Рыгоравай жонкі „Ніна, ратуй". Выбеглі з кватэры і ўбачылі, як выходзіць яна на панадворак, бледная і зсгорбленая. Ціхенькім голасам прасіпела яшчэ „Ратуй мяне" ды звалілася тварам на зямлю. Тады суседзі заўважылі на спіне перарэзаную вопратку і кроў.

Рыгор К., калі яго дапытвалі як падазронага, прызнаўся, што гэта ён нанёс удар нажом у спіну сваёй жонцы. Тлумачыў аднак, што зрабіў гэта не ў намеры пазбавіць жонку жыцця. Сталася гэта неяк машынальна, паясняў ён, хацеў я

☞ *Працяг на стар. 3*

## ТРЭБА НАМ МАЛАДЫ, ЗДАРОВЫ...

Каб знайсці сёння працу, трэба мець здароўе. І добры, бадзёры выгляд. І ўзрост адпаведны. І шчасце... Шукаюць людзі працу. Аб'яўляюцца ў друку: "малады, энергічны, з машынай, "дыспазіцыйны"... таленавітая, згодная на ўсе ўмовы, умее абслугоўваць камп'ютэры... ведае мовы... закончаны курс бізнесменаў..." Звычайная школа - прафесіянальная, тэхнікум, вышэйшая (не гаворачы ўжо пра агульнаадукацыйны ліцэй) - не дае цяпер адпаведнай адукацыі, патрэбнай да старту ў даросласе працоўнае жыццё. Але, ці заўсёды пасведчанне аб заканчэнні школы было пацвярджэннем кваліфікацый выпускніка? А, праўдападобна, з падрыхтоўкай да працы ў школе будзе яшчэ горш; асвета і навука маюць усё менш грошай на дапаможнікі, спецыялістычныя кнігі, падручнікі, навуковыя доследы, абсталяванне школ і майстэрняў, зарплаты для настаўнікаў... Зразумела, як усё гэта ўплывае на вынікі навучання. Пасведчанне аб заканчэнні навучаня ў школе становіцца малаважнай паперынай. Праўда, уваходзяць у моду дакументы, выдадзеныя прыватнымі і "грамадскімі" школамі, праграма якіх быццам больш прыстасавана да сучасных патрэбаў (пасля падобных школ шмат маладых амерыканцаў пакутвае з "паўторнай непісьменнасці"), але і так для працадаўца найважнейшымі будуць толькі практычныя веды і працаздольнасць магчымага працаўніка. Але што малады чалавек мае зрабіць, каб яго заўважылі і захацелі даць яму шанц выказацца? Зачыняюцца прадпрыемствы, стае прадукцыя. Краіна заліваецца імпартнымі канкурэнтнымі таварамі. Маладзён можа раптам "залапацца" на працу ў гандлі (агентам-"карабейнікам"), рэкламе... Але большасць стане ў чаргу для беспрацоўных адразу пасля заканчэння школы. Якую маюць яны надзею? Выезд за мяжу?! Каб пражыць?! Але ў іх ёсць яшчэ нейкая надзея, ёсць здароўе ды сілы. А што маюць зрабіць людзі сталыя, ужо ў гадах, якія знайшліся "на бруку"? Замаладыя на пенсію, з падрастаючымі дзецьмі, з беспрацоўным мужам ці жонкай, даўгамі за кватрплату? Нядрэнныя спецыялісты, але без асаблівых талентаў, хоць бы такой "сілы прабіцца"? Жанчыны, ранейшым атрыбутам якіх была хаця б краса, ці здольны ўступаць у спаборніцтва з маладымі і здаровымі красунямі, поўнымі сілы, новых ведаў і надзеі? Не могуць цяпер, пасля дзесяткаў гадоў плённай, сумленнай працы, утрымаць сябе і сям'ю, забяспечыць будучыню дзецям...

Непатрэбныя. Шукаюць працу. Разглядаюць аб'явы. А ЯНЫ хочуць толькі маладых, энергічных, умеючых пераканаць пакупніка набыць свой найлепшы тавар.

МІРА ЛУКША

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*— Mój ojciec jest prawosławny, stąd pochodzi, mama jest katoliczką, z Warszawy, — opowiada nam Mirosław Hanusz, szef białostockiej Unii Pracy. — Byłem ochrzczony w cerkwi prawosławnej, siostra w kościele katolickim. Maturę robiłem w białoruskim liceum im. Taraszkiewicza, siostra uczęszczała do liceum polskiego im. Kościuszki. Jestem katolikiem, ślub mam prawosławny.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 100)*

**Пагляньма, колькі дзейнікаў працавала на польска-каталіцкую трансмутацыю гэтага чалавека: бацька — праваслаўны (тутэйшы), маці — каталічка (нетутэйшая), беларускі ліцэй імя Тарашкевіча (тутэйшы), сястра — каталічка (тутэйшая), праваслаўная царква (тутэйшая).** Aby Polska była Polską! **Альбо па-цяперашняму:** teraz Polska!

* * *

*— Czuję się zdradzony przez pana Cimoszewicza, — mówi przewodniczący białostockiego SdRP Stanisław Maliszewski. — Przed wyborami do Sejmu był tu częstym gościem, a przy pierwszej okazji powiedział, że nie ma z nami nic wspólnego. Ja nie potrafiłbym uczynić tak, jak on, żeby kampanię finansować z pieniędzy PZPR, a potem skomentować, że PZPR miała brudne pieniądze z* ***Moskwy.***

*(Gazeta Wyborcza, nr 100)*

To jest pryszcz, za przeproszeniem Państwa. **Цімашэвіч, калі трэба, можа быць і беларусам, і палякам, а мабыць — і праваслаўным католікам. Словам — самы адпаведны кандыдат на прэзідэнта Польшчы — бацьку ўсіх палякаў. І мы яму дапаможам у ягоным змаганні.**

* * *

*W podziale na lewicę i prawicę nie mieści się Białoruskie Zjednoczenie Demokratyczne, które uznaje się za partię mniejszości narodowej.*

*(Gazeta Współczesna, nr 88)*

* * *

*— Białorusini nie są partnerem wybrednym — mówi Sergiusz Martyniuk — jeśli idzie o jakość produktów rolnych. Jest to partner skromny i ugodowy. Żeby jednak prowadzić z nim interesy, trzeba zapomnieć, że istnieje coś takiego jak biznes, plan. Trzeba natomiast wiedzieć, czego się po nas spodziewają, wczuć się w nastroje i psychikę, wiedzieć co lubią...*

*— A co lubi Białorusin?*

*— Lubi porządnie i tłusto zjeść, wypić. Ponieważ sam jest gościnny, lubi być swojsko ugaszczany.*

*(Polityka, nr 19)*

**Сяргей Мартынюк з Нарвы дасканала ведае, як ладзіць інтарэсы з беларусамі. І мае дзеля таго магчымасці. А мы ў „Ніве" ўсё не можам дамовіцца з міністрамі, каб своечасова атрымаць праграму беларускага тэлебачання. То есці няма чаго, то гарэлкі не стае, то ўсё пост і пост...**

* * *

*Największą atrakcją jest ostatnio wchodzenie do koalicji i wychodzenie z niej. W tej konkurencji wysoki stopień specjalizacji osiągnęło Porozumienie Ludowe. Bywało, że dwa razy dziennie wchodziło i wychodziło. Orientację tracili najbardziej wytrawni tzw. obserwatorzy sceny. Wystarczyło na trzy godziny opuścić gmachy Wiejskiej, by nie być w kursie. Kilkugodzinny wyjazd poza Warszawę groził kompletnym zagubieniem się w aktualnej sytuacji politycznej.*

*(Polityka, nr 19)*

**Няма чаго дурыць сабе галаву гэтымі кааліцыямі. Прыйдзе Цімашэвіч — і зробіць з усімі парадак. І тады ўсё стане на сваё месца — беларусы зноў будуць пры ўладзе.**

* * *

*— Слухайце! — Стась быў натуральна ўзбуджаны. — Слухайце, дайце мне тэму, дайце мне такую тэму, каб я — ух! Каб бомба! Толькі не кажы, што нічога няма, ведаю я вас, холера ясна...*

*„Цуж, — падумаў я, — почонтэк бардзо обецуёнцы..."*

*— Але-есь! Ты думаеш — я што?! Я цалкам паважна: Варшава, Эўропа, маю на гэта семнаццаць мільёнаў злотых... Добжэ заробіш!*

*(Алесь Чобат, „Мае сустрэчы з пані Сухоцкай і панам Пазнаньскім", Пагоня, н-р 9)*

**Станіслаў Пазнанскі, журналіст беларускай праграмы Беластоцкага радыё, шукаў тэму за семнаццяць мільёнаў на Гродзеншчыне. З артыкула А. Чобата вынікае, што не знайшоў. Таму мы маем прапанову — Стась, зайдзі да нас у „Ніву"! Мы табе дамо тэму за палову тых грошай. Мы цалкам паважна: Варшава, Эўропа, і гэтак далей... І будзе бомба! — ух!**

## З мінулага тыдня

**Праўдападобна пад канец мая прэзідэнт Лех Валэнса** наведае ў парадку афіцыйнага візіту сталіцу Украіны — Кіеў. Восенню плануюцца візіты прэзідэнта ў Беларусь і Фінляндыю. У пачатку ліпеня на запрашэнне прэзідэнта РП у Польшчу прыедзе каралева Даніі, а ў верасні кароль Швецыі.

**Рэспубліка Беларусь і Ватыкан** наладзілі дыпламатычныя зносіны. 12 мая старшыня Вярхоўнага Савета **Станіслаў Шушкевіч** прыняў вярыцельныя граматы ад папскага нунцыя мансіньёра **Габрыеля Мантальвана.**

**Бюро міжнародных кірмашоў ІТО з Беластока** арганізуе ў пачатку чэрвеня ў Менску выставу медыцынскага абсталявання і фармацэўтычных вырабаў. Мэта мерапрыемства — пазнаёміць беларускіх і СНДоўскіх прадпрымальнікаў з прапановамі польскай прамысловасці ў гэтай галіне і наладзіць гандлёвыя кантакты.

**Прафесар Тадэуш Цітка** выбраны рэктарам Політэхнічнага інстытута ў Беластоку. Дагэтуль выконваў ён функцыю прарэктара па справах навукі і гаспадарчага супрацоўніцтва. Ягоным контркандыдатам быў папярэдні рэктар праф. **Казімеж Пяньkоўскі.**

**З прычыны страйку настаўнікаў сярэдніх школ** не ва ўсіх школах адбыліся ў раней назначаных тэрмінах матуры (экзамены на атэстат сталасці). 11 мая матуральныя экзамены пачаліся на Беласточчыне ў 22 школах, у тым ліку і ў абодвух беларускіх ліцэях у Бельску-Падляшскім і Гайнаўцы. У 21 сярэдняй школе матуры адбудуцца ў пазнейшым тэрміне.

**Сорак гадоў існуе ўжо Белавежская геабатанічная станцыя** — пастаянная замясцовая навуковая лабараторыя Варшаўскага універсітэта. Займаецца яна вывучэннем змен структуры дынамікі лясных масіваў у апошніх дзесяцігоддзях, а пад яе наглядам знаходзіцца Белавежскі нацыянальны парк і частка Белавежскай пушчы. З нагоды юбілею адкрыты дзве выстаўкі: у Варшаўскім універсітэце, прысвечаная дзейнасці станцыі і навуковым дасягненням яе працаўнікоў, і ў Белавежскім доме культуры — аб гісторыі і формах дзейнасці гэтай установы.

Невядомыя злачынцы узламаліся да **стараверскай маленны св. Мікалая ў Сувалках** і ўкралі 14 іконаў, 6 крыжоў і грошы, сабраныя на рамонт храма. У Сувалках і наваколлі пражывае 116 сем'яў старавераў.

**У Саколцы плануецца стварыць бязмытную зону.** Дзеля ажыццяўлення гэтай ідэі ў бюджэце горада зарэзервавана 700 мільёнаў злотых. Рэшту патрэбных фінансавых сродкаў перададуць зацікаўленыя стварэннем такой зоны фірмы, перш за ўсё многія прадпрыемствы joint-ventures, што дзейнічаюць у Польшчы, а таксама адна кітайская фірма. Уладальнікам і загадчыкам зоны будзе суполка з удзелам управы горада.

**Гміна Крынкі**, як адна з пятнаццаці гмінаў у Польшчы і адзіная у паўночна-ўсходнім рэгіёне, прапануецца Міністэрствам працы і сацыяльнай палітыкі да ўдзелу ў Праграме мясцовых ініцыятыў. Праграма паўстала ў выніку пагаднення Камісіі еўрапейскіх супольнасцей і польскага ўрада. Неўзабаве ў Крынках будзе распрацаваная мясцовая праграма развіцця. Калі міністэрства адобрыць гэтую праграму, гміна знойдзецца ў групе дзесяці гмін, якія атрымаюць 6 мільёнаў ECU. З гэтай сумы Крынкі атрымалі б 12 мільярдаў злотых на стварэнне новых месц працы.

3 млн. 653 тыс. зл. брута — гэта сярэдняя месячная зарплата ў I квартале 1993 г., а сярэдні заробак у сферы матэрыяльнай вытворчасці ў гэтым жа перыядзе раўняўся 3 млн. 429 тыс. зл. — паведаміў ГУС.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Пра беларускі дух у беларускіх ліцэях.
- Чаму страйкуюць лекары і настаўнікі?
- Цэнзура ўчора і сёння.
- З Амерыкі пішуць, што "Дубіны" яшчэ зайраюць на "сваіх" інструментах.

## СЕМІНАР "БЕЛАВЕЖЫ"

Праўленне Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" паведамляе, што 22 траўня 1993 г. (субота) ў Беластоку, вул. Лінярскага 4, пак. 65, а гадз. 11.00 адбудзецца літаратурны семінар, прысвечаны новаму паэтычнаму зборніку Надзеі Артымовіч "З неспакойных дарог" (Менск, "Мастацкая літаратура", 1993).

Сардэчна запрашаем.

(лук)

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### НА ДЖОНА СПАДЗЯВАЙСЯ, АЛЕ І САМ НЕ СПІ

Днямі міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка вярнуўся з Нью-Йорка. Вынікі гэтага візіту, здаецца, вельмі неблагія. У прыватнасці, амерыканскае кіраўніцтва абяцала выдаткаваць Беларусі 65 мільёнаў долараў для дэмантажу ядзернай зброі. Больш таго, дзелавыя людзі ЗША згадзіліся аказаць дапамогу па рэфармаванню нашай эканомікі. Вось толькі ці здолеюць беларусы яе прыняць? Бо, як заявіў нядаўна старшыня беларускага парламента Станіслаў Шушкевіч, за сур'ёзную дапамогу трэба разлічвацца, а магчымасці нашых крэдытных гарантый не вельмі высокія.

### КАМУ ШТО, А КАМУНІСТАМ — ПУТЧ

Падобна на тое, што камуністы Беларусі зусім „ачунялі" ад пасляпутчавага перапалоху і перайшлі ў наступ на дэмакратаў. Найперш, верныя ленінцы вырашылі „нейтралізаваць" лідэра БНФ Зянона Пазьняка. Рэспубліканскі Савет Руху „За дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць" (арганізацыя пракамуністычнага кірунку) звярнуўся ў пракуратуру Беларусі з просьбай узбудзіць крымінальную справу на факту заявы старшыні парламенцкай апазіцыі, лідэра БНФ Зянона Пазьняка,што прагучала падчас нядаўняга мітынгу на плошчы Незалежнасці ў Менску. Тады Зянон Пазьняк назваў цяперашні Вярхоўны Савет рэспублікі нелегітымным і адзначыў, што народ Беларусі мае поўнае права на паўстанне. Пракамуністычныя сілы лічаць, што лідэр такім чынам заклікаў да гвалтоўнае змены законнай улады.

### ДА БОГА ВЫСОКА, А ДА СУДА НЕДАЛЁКА

Так і не паразумеліся прыхаджане Менскага касцёла Святой Тройцы з адміністрацыяй Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Вернікі звярнуліся ў гарадскі суд, каб той у рэшце рэшт прымусіў Белдзяржфілармонію перадаць касцёл на баланс парафіяльнага савета. Усе ранейшыя перамовы вернікаў з чыноўнікамі філармоніі былі бязвыніковымі. Цяпер справа за судом.

### ЧУЖАЯ СПАДЧЫНА

На вывучэнне стану і магчымасцей рэстаўрацыі старажытных замкаў урад Літвы выдаткаваў 6 мільёнаў талонаў (так называюцца часовыя літоўскія грошы). У пералік важнейшых з аб'ектаў увайшлі Навагрудскі, Крэўскі, Лідскі і некаторыя іншыя замкі, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі.

### НЕЧАКАНЫ ПАДАРУНАК

Да сёмай гадавіны Чарнобыльскай катастрофы жыхары ўсіх раёнаў Гомельскай вобласці атрымалі нечаканы падарунак. З мая па верасень гэтага года спецыялістамі дзяржаўнага камітэта па Чарнобылю Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам экалогіі і аховы навакольнага асяроддзя Германіі будзе праводзіцца шырокамаштабнае даследаванне, якое стала магчымым дзякуючы заключанаму абодвума бакамі пагадненню „па вызначэнню радыяцыйнай нагрузкі, што ўплывае на насельніцтва і навакольнае асяроддзе рэспублікі, якая пацярпела ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС"

### ФЕСТЫВАЛЬ ЗБІРАЕ СЯБРОЎ

Памяці вядомага беларускага драматурга Андрэя Макаёнка прысвечаны трохдзённы рэспубліканскі фестываль самадзейных тэатральных калектываў. Ён прайшоў у Мазыры з мэтай адраджэння беларускай нацыянальнай культуры, традыцый і звычаяў.

### ПЕРШАМАЙ З ПРЭМ'ЕРАМ І МІРАМ

У адрозненні ад Масквы, святкаванне Першамая ў Менску прайшло ўрачыста і мірна. Бадай што, упершыню разам з калонамі дэманстрантаў адзначаў свята працы і старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч. Апроч яго з лідэраў рэспублікі ў гэты дзень на вуліцах Менска нікога не было. Мажліва, прысутнасць прэм'ера і паўплывала на ўвесь ход свята. Яно прайшло надзіва арганізавана і зладжана, хоць Першамай разам святкавалі і „чырвоныя", і „бел-чырвона- белыя".

### ПОМНІК ПАЖАРНІКУ

Упершыню на Беларусі ўстаноўлены помнік звычайнаму пажарніку. На цэнтральнай плошчы Брагіна днямі быў устаноўлены помнік Васілю Ігнаценку, які геройскі загінуў падчас тушэння пажару на Чарнобыльскай АЭС у 1986 годзе. Так жыхары Брагіна ўшанавалі памяць свайго земляка.

МІКОЛА ДЗЯБЁЛА

## ЯК Я ПУОМНЮ...

- Пуомніш, Жэнько, як калісь мы пралі? - пытаецця старая Дарка.

- Але, - адказвае такая ж старя Жэнька. - Лён, каноплі сеялі, слалі, церлі, трапалі, пралі, ткалі, ай! Было работы! Цяпэр ніхто гэтаго ні робіт, і жывут людзі...

- Пуомню, як збэрэмсе і як пачнем аб усім гаварыці, то і час ішоў, і работа рабілася...

- Ні забуду, як калісь Рыгор казаў, што яго чорт спаткаў. Ну, ні выгледаў як чорт, алі як харошы мужчына, і меў такую харошу люльку. Паменяўсэ з ім Рыгор люлькамі і прышоў дахаты. Рано бачыт, што то ні люлька, а конская костка. Пабег на тое месцо, а там лежыт яго люлька.

- Ой, было калісь усяго. Людзі пехатою хадзілі, а часто трэбо было ісьці пуозно, то і чэрці іх вадзілі, ну а цяпэр то людзі самые як чэрці сталі.

- Але ванэ так. Калісь Рыгор і Максім пагналі коні на начлег. Распалілі агонь і пачалі расказваць пра бабы. Раптом чуют, як хтось крычыт: "Як іду, то прыду! Як іду, то прыду!" Ваны ўжэ злякалісэ. Прышла гола баба. Тады Рыгор апрытомнеў. Узяў галавэшку і суную юуой у тую "харашуху". Як выскачыт вана і палеціт крычучы: "Чаго хацела, то таго і дастала, ха-ха-ха!"

- От! Было калісь усяго! Мнуого бэды, гора, страхоуў усялякіх. Пажылі людзі добрэ, а цяпэр будут знуоў гарэваці.

- Пуомню, калісь, як я мусела дзіця пілнаваць у тае багачкі Адэлі... Яе дзеці гулялі, а я не мела права. Ні раз плакала. Посьлей рабіла як дурная на чужуом загоні, а як вышла замуж, то сьвэкруха есьці не давала. Добрэ, што муой Васіль краў хліеб і ўначэ даваў мне.

- Добрэ, што ў мане ні было сьвэкрухі, а сьвекер ні мэшаўсэ да мане. Алі і так было цяжко. Хто калісь хліеба ўдоваль меў!

- Пуомніш, калі была міесечна нуоч, то ні палілі мы лямпы, а пралі так, бэз сьвэтла, бо ні было грошэй на нафту...

Запісала **АЎРОРА**

## ПРАЎДА Ў ВОЧЫ КОЛЕ?

Калі я пісаў у "Ніву" (№ 8) пра радыёперадачы на беларускай мове "Пад знакам Пагоні" і выказваў думку, што яны намнога горшыя за колішнія перадачы Віктара Рудчыка, то ў галаву мне не прыйшло, што гэта выкліча абурэнне шаноўнага Пана Уладзіслава Праховіча. Відаць, нельга яго крытыкаваць, бо ён заўсёды мае рацыю.

Нягледзячы, аднак, на ўсе абставіны, я яшчэ раз падтрымоўваю тое, што напісаў раней. Гэта мая асабістая ацэнка. Віктар Рудчык, вечная яму памяць, разумеў людзей і, што найважнейшае, хацеў нешта рабіць. Яго размоўцы і ён сам гаварылі нейк натуральна, свабодна, а не кожны так патрапіць. Я шчыра перапрашаю Пана кіраўніка Праховіча за маю адмоўную ацэнку яго працы, але адначасова прашу, каб ён зразумеў і нас, радыёслухачоў. Чалавек чакае гэтых пару хвілін гутаркі ды песняў на роднай мове, і калі ўжо дачакаецца і пачуе нейкую лухту, якую ўжо пару разоў раней чуў, і песні, ад якіх развальваецца радыёпрыёмнік, - ці можа быць задаволены?

Я заўсёды заклікаў і цяпер заклікаю ўсіх беларусаў аб'ядначца. Перастаньце злавацца адзін на аднаго, бо толькі супольна можам яшчэ нешта зрабіць для нашага грамадства! Мне здаецца, што за крытыку ці за нейкія заўвагі да працы ніхто не павінен гневацца. Толькі крытыка дазваляе пазбегнуць памылак у будучым.

Я вымушаны быў напісаць гэтыя словы, прачытаўшы ліст Паўла Якімчука і адказ рэдакцыі ("Ніва" № 18), дзе паявілася маё прозвішча. Не думаў я, што г.зв. "нашыя хлопцы" могуць пакрыўдзіцца нават за словы праўды, сказаныя ў іх адрас.

**МІКОЛА ЛУК'ЯНЮК**

## ЦІКАВА БЫЛО ПАСЛУХАЦЬ ПРА ВАЎКА...

Новае прыцягвае. Цікавае культурнаасветнае мерапрыемства пачаў весці Дом культуры ў Гайнаўцы ў рамках Прыродазнаўчага універсітэта (wszechnicy). Вечарам 21 красавіка бягучага года ў кавярні спомненага дома культуры яго кіраўніцтва — дырэктар Мікалай Бушко і намеснік дырэктара Галена Вайсковіч — арганізавалі сустрэчу з вучоным, заолагам, які займаецца ў лабараторыі ПАН даследаваннем, між іншым, драпежнікаў у Белавежскай пушчы — доктарам Генрыкам Акармай. Нядаўна выдаў ён кніжку пад загалоўкам „Воўк". Пра яго шырэй пісаў у „Ніве" ад 3 студзеня 1993 года Пётр Байко. Артыкул яго меў інтрыгуючы загаловак „Рысі з перадатчыкамі".

Галоўнай тэмай сустрэчы з вучоным быў іменна воўк і ўсё, што тычыцца гэтага ляснога драпежніка. Прыйшло шмат зацікаўленых. Сустрэчу вёў М. Бушко. Генрык Акарма, як выявілася, — вопытны расказчык з педагагічнымі здольнасцямі. Здолаў ён зацікавіць тэмай усіх прысутных на працягу двух гадзін! Прывёз ён і паказаў каляровыя дыяпазітывы. Пасля былі пытанні, пытанні... Высветлілася, што ўсе мы мала ведаем пра ваўка і яго норавы.

Арганізатары запрасілі белавежскіх вучоных, між іншым Багумілу і Уладзімежа Енджаеўскіх ды Кшыштафа Шмідта расказаць у наступны раз пра рысь, таксама жыхарку лясных нетраў Белавежскай пушчы.

Затым аўтар падпісваў усім ахвотным свае кніжкі.

**ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**

## НОВЫ ДАВЕДНІК АБ ЗУБРАХ

Выдавецкае аддзяленне Белавежскага нацыянальнага парку і Нацыянальны фонд аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі выпусцілі на пачатку сёлетняга турыстычнага сезона брашуру на польскай мове п.з. „Зубр — рэлікт мінулых эпохаў". Рыхтуюцца таксама яе версіі на англійскай і нямецкай мовах. Аўтар брашуры — шматгадовы навуковы працаўнік БНП і заадно зубрыны лекар, д-р ветэрынарыі Збігнеў А. Красінскі.

Брашура пачынаецца фрагментам паэмы Конрада Цэльтыса „Quattour libri amorum" ад 1502 г., які датычыць зубра. Далей знаходзім кароткае апісанне гісторыі зуброў наогул і ў самой Белавежскай пушчы. У гэтым раздзеле аўтар допускае памылку, пішучы, што ў белавежскіх нетрах палявалі Баляслаў Крывавусты і Уладзіслаў Лакетак. Гэтаму няма гістарычных доказаў. Мабыць палявалі, але не ў Белавежы. Затое прапускае прозвішча Ягайлы, які наладзіў у пушчанскіх нетрах у 1409 г. вялікае паляванне, рыхтуючы запас мяса на Грунвальдскую бітву. У сваю чаргу, пішучы аб паляванні ў 1860 г. аўтар павінен назваць цара Аляксандра II, а не Аляксандра I, які памёр яшчэ ў 1825 г.

Чарговы раздзел прысвечаны асаблівасцям целаскладу і жыцця зуброў. Папярэджвае ён старонку са змястоўнай інфармацыяй пра археалагічныя знаходкі зубрыных астанкаў у Польшчы. Далей характарызуюцца ўсе польскія закрытыя (Белавежа, Пшчына, Непаламіцы, Смардзэвіцы) і паказныя зубрагадоўлі, а таксама статкі зуброў, якія жывуць на свабодзе (у Белавежскай, Барэцкай, Кнышынскай пушчах, у Пільскіх лясах і ў Бяшчадах). Адна старонка даведніка прысвячаецца ахове зуброў, а напрыканцы падаюцца чатыры цікавыя здымкі, з каментарамі, якія адлюстроўваюць адносіны зуброў да коней, кароў, людзей і... нябожчыкаў!

Аўтары малюнкаў і здымкаў, якімі ілюстравана брашура — З.А. Красінскі, Л.З. Навацкі, Я.Е. Карпінскі, Л. Вільчэк. Тыраж польскай версіі гэтага „зубрынага даведніка" — 5 тысяч экземпляраў.

**ПЁТР БАЙКО**

## ВАРТАСНАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ

У 17-м н-ры "Нівы" П. Байко апублікаваў дасканалы артыкул "Адгукнуўся Ян Крук", з якога можам многа даведацца пра нядаўняе мінулае. Нас у школах вучылі, што кожны цар быў ворагам людзям, а многіх "адправіў" на той свет. Паводле маіх назіранняў — цары на той свет адпраўлялі нікчэмных забойцаў і крымінальнікаў. Паўстанцаў ды іншых мяцежнікаў, якія не апляміліся крывёю, цар ссылаў у Сібір — на вольнае пасяленне, і даваў ім столькі зямлі, колькі яны хацелі. Многія мяцежнікі, дзякуючы там сваёй працы, сталі багацеямі. Мой бацька, які быў у бежанстве ў Омску над Іртышом, бачыў, як там жылі ссыльныя палякі. Яны правілі цэлым горадам: у іх руках была адміністрацыя і фабрыкі, м.інш. вялікая масарня. У часе бежанства царскі ўрад лічыўся і з беларускім народам, і хаця ішла крывавая вайна, аднак рускія дапамагалі нам як маглі і, як родныя браты, апошнім дзяліліся. Многія там, у Сібіры, атрымалі адукацыю, так як герой артыкула Ян Крук.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## СЁННЯ Я ЦЯБЕ ПРЫКОНЧУ

☛ *Працяг са стар. 1*

адрэзаць сабе кавалак хлеба, тады жонка стукнула мяне паленам у галаву, а я махнуў гэтым нажом, не глядзеўшы куды, хочучы адагнаць яе ад сябе. Як доказ Рыгор К. паказаў рану на галаве. Лекар, які аглядаў гэту рану згадзіўся, што магла яна ўзнікнуць у акалічнасцях апісаных падазроным. Паліцыя, якая аглядала кухню не знайшла аднак палена, якім жонка нібыта мела стукнуць яго ў галаву. „Калі ўвайшлі мы ў кватэру, — гаварыў у судзе камендант наравчанскага камісарыята, — у кухні нешта варылася. Знайшлі мы там хлеб, пра які расказваў падазроны, але нідзе не было палена".

Ні следства, ні разгляд справы ў беластоцкім судзе не высветлілі фактычнага сцэнарыя здарэнняў. Выйшла на святло затое шмат іншых фактаў. Між іншым тое, што Рыгор К. быў сумленным працаўніком — неаднойчы атрымліваў ён за сваю працу ўзнагароды.

Пракурор, якая абвінавачвала Рыгора К. у забойстве жонкі, запатрабавала 15 гадоў турмы. Суд, відаць, улічыў некаторыя акалічнасці на карысць абвінавачанага, бо паменшыў яму кару да 13 гадоў.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

P.S. З увагі на неправамоцнасць прысуду ў тэксце зменены прозвішчы, усё іншае праўдзівае.

# СВЯТКАВАЛА ВЁСКА

Велікодняга свята на беларускай вёсцы заўсёды чакалі нейк асабліва. Бацькі пільнавалі, каб дзеці не толькі не наеліся нейкага сала, але таксама, каб вараную бульбу — барані Бог — не залівалі малаком. Падчас Вялікага Тыдня, калі пасціць трэба было вельмі шчыра, разбуджаны пахам свежай кашанкі і каўбасы страўнік амаль голасна дамагаўся такой ежы. Дзеці лічылі ўжо гадзіны, якія заставаліся да Велікоднага снедання.

На панадворку рабілася штораз цяплей. Можна было скінуць валёнкі ды цяжкія гумовыя боты, бегаць па двары без шапкі. Пачынала святкаваць і прырода. Кожнаму дзецюку бацькі найчасцей рыхтавалі нешта з новай вопраткі, і кожны нецярпліва чакаў, калі выйдзе ў ёй паказацца на вуліцу.

Вялікдзень жыхары вёскі святкавалі найчасцей на вуліцы. Пажылыя людзі сядзелі на лавачках, глядзелі на дзяцей, моладзь і каментавалі ўсё па-свойму. А маладыя, як маладыя; адны бегалі, другія спявалі, хтосьці іграў на гармоніку, некаторыя пілі гарэлку. Вечарам усё грамадства пераносілася ў ваколіцу святліцы або „рэмізы". Моладзь танцавала, хлопцы час ад часу зрываліся біцца, а старэйшыя, стоячы пад вокнамі, шукалі тэмаў для гутаркі на наступныя дні святкавання.

Так было яшчэ ў шасцідзесятых гадах — весела, людна, з вялікім аптымізмам і надзеяй.

У сямідзесятых гадах штораз менш дзяцей радзілася на вёсцы, моладзь прыязджала толькі святкаваць, бо ў горадзе не выпадала быць „рускім". Новыя сябры і сяброўкі нашых Алёшаў, Міколаў, Вераў, Тамараў ведалі іх як Альбінаў, Мар'юшаў, Веранікаў, Юлітаў, Агнешкаў, Губертаў. Ваня абураўся калі хтосьці яго не называў „Януш", а „Тэрэса" чырванела са злосці, калі хтосьці забываў яе псеўданім і называў Тамарай.

Меў я прыемнасць у гэтым годзе святкаваць Вялікдзень у сваёй роднай вёсцы. Выйшаў раніцай з хаты — цішыня, толькі птушкі шчабечуць. Перайшоўся я каля абеду цераз вёску і не спаткаў жывой душы. Толькі падвечар падняўся нейкі крык. Гэта „малады гаспадар" (46 гадоў), у стане, званым медыкамі „дэлірным", ганяў сваю жонку. Ёсць у вёсцы яшчэ адзін „млоды рольнік" — кавалер, якому пад 40 гадоў. Той пачаў святкаваць ужо з чацвярга, калі пісьманосец пранёс бацькаву пенсію. Людзі, якія вярталіся з усяночнай, віталі яго словамі „Хрыстос Уваскрос" у суседняй вёсцы. Адказу аднак на святочнае прывітанне не атрымоўвалі. Спаў сабе чалавек на лавачцы пад развaленым плотам і, пэўна, не ведаў, што свята ўжо пачалося.

У вёсцы засталося толькі пару людзей, якім ЗУС стаў галоўнай крыніцай прыбытку, дазваляючай нейк пражыць. За дзесяткі гадоў працы атрымліваюць яны цяпер каля аднаго мільёна злотых. Прыблізна 25% з гэтай сумы пастанавіла забраць у іх гмінная рада. Рашыла, што ўсе пенсіянеры маюць плаціць 8 тысяч злотых за квадратны метр нявыкарыстаных гаспадарчых будынкаў. Тыя, хто мае драўляныя будынкі, збіраюцца іх разбурыць, а матэрыял выкарыстаць на абагрaванне дамоў. Тыя, якія пабудавалі калісьці клуні ці хлявы з цэглы, апынуліся ў бязвыхаднай сітуацыі. Некаторыя жартуюць, што трэба шукаць нейкі тратыл, каб узарваць гэтыя „каштоўныя" будынкі.

Падпіўшы „раяльнай" гарэлкі, старыя спрабавалі нават спяваць, але недзе каля першага рэфрэна першай песні ўжо не хапала ім моцы. Сумна і без ніякай надзеі святкавала вёска.

**ВАСІЛЬ КУРГАНОВІЧ**

<u>*ДА ДНЯ МАЦІ*</u>

**Дарагая Рэдакцыя!**

Надрукуйце перад Днём Маці малітву старой жанчыны, якая выхавала сваіх дзяцей на адказных і адукаваных людзей. Колькі любові ў сэрцы гэтай жанчыны! Найважнейшае ў жыцці кожнай маці - дабро яе дзяцей. З нагоды Дня Маці прапаную жанчынам прачытаць гэтую малітву і задумацца над лёсам сваіх дзяцей.

## МАЛІТВА МАЦІ

Спасі і зберажы маіх дзетак,
Пашлі ім ад Госпада Бога ласку,
Ад добрых людзей літасць,
Ад злых міласэрнасць.
Няхай яны будуць Госпаду Богу
І Айчыне на карысць,
А бацькам уцехай.

**НАДЗЕЯ ХАРКЕВІЧ,**
**83 гады,**
**вёска Ляшукі**

 

## З ДРУКУ

### КОНСУЛ ПА-БЕЛАРУСКУ НІ БЭ, НІ МЭ

Яскрава памятаю год 1990-ы, а менавіта сакавіцкія падзеі на Летуве, калі парлямэнт гэтай рэспублікі абвясьціў сьвету аб сваёй незалежнасьці, надзеі вяртаньня ў супольніцтва эўрапэйскіх народаў. Інтуітыўна многія з нас адчувалі, што вось-вось выбухне, і таму сам факт толькі пацьвердзіў нашыя спадзяваньні. Але мяне ўразіла іншае. Па тэлебачаньні былі паказаны кадры наступнага зьместу: у Злучаных Штатах, дзе існуе шматтысячная летувіская дыяспара, ва ўсіх касьцёлах некалькі дзён эмігранты летувіскай нацыянальнасьці са сьлязамі на вачох маліліся за тое, каб Бог не дапусьціў, каб летувіскі народ вырадзіўся ды загінуў. Ня толькі грамадзяне Летувы, але й суайчыньнікі, якія жувуць за мяжой, зышліся ў галоўным - адзіную нацыю аб'ядноўвае агульная мэта - адбудова сувэрэннай летувіскай дзяржавы.

Мінула колькі гадоў. Летувіскія эмігранты вяртаюцца на Бацькаўшчыну, укладаюць грошы ў разьвіцьцё нацыянальнага бізнэсу, ладзяць ды мацуюць сувязі з землякамі, адным словам, дзяржава стварыла ўсе варункі, якія спрыяюць яе аўтарытэту ў сьвеце...

Мне, грамадзяніну Беларусі, у каторы раз балюча й горка за антыбеларускую, па сутнасьці палітыку нашага ўрада. Так, у сьнежні давялося сустрэцца з беларусамі ў Гданьску, дзе іх жыве нямала. Прадстаўнікі Беларускага культурнага цэнтру, якія год дамагаюцца ад мясцовых уладаў захаваць за імі памяшканьні, дзе месьцяцца актывісты беларускай грамады. Нагадаю, што ў Гданьску знаходзіцца гэнэральнае консульства Беларусі ў Польшчы, і выдаткоўваецца на яго ўтрыманьне з дзяржаўнага бюджэту 40000 даляраў. Таму і зразумела пазіцыя мэра: ідзіце да консула, маўляў, ваш суайчыньнік, з ім і вырашайце праблемы, а ў нас сваіх клопатаў повен рот.

А як нармальнаму чалавеку растлумачыць, што гэтаму консулу да гэтых братоў-беларусаў такая ж справа, як нашаму ўраду да ўсіх нас? Сорамна за ўрад і можна зразумець гданьскіх беларусаў - адно спадзяваньне на польскія ўлады.

Трагедыя нацыі, што тамтэйшыя беларусы адчуваюць сябе па-ранейшаму як бы эмігрантамі, лёсам закінутыя ў чужую краіну, а не часьцінкай беларускага народу, які мае сваю дзяржаўнасьць. А калі няма даверу сыноў да сваёй Бацькаўшчыны - гэта страшна. Таму й зайздрошчу суседзям-летувісам, таму й сорамна за палітыку нашай дзяржавы.

А рэчаіснасьць зараз такая, што грамадзяне сувэрэннай Беларусі па ўсіх завулках абмяркоўваюць, быць ці ня быць Ельцыну прэзідэнтам; аддаць ці не Курылы японцам; чаму зьнік Няўзораў з тэлебачаньня ды г. д. Жывуць, адным словам, справамі чужой дзяржавы, ня ведаюць, што робіцца ў сваёй хаце.

Калі, нарэшце, наш урад ды ўсе мы разам зразумеем, што ў нас свая ёсьць зямля, гісторыя, свае суайчыньнікі за мяжой, якія жывуць, магчыма, апошнімі надзеямі? Цікавае пытаньне, калі ж пачнуць паважаць нас як народ, разгледзяць нашае адметнае, беларускае, з усяго рускага ды савецкага? Пэўна, тады, калі пачнем паважаць сябе самі.

Маленькі прыклад. Той жа гэнэральны консул Беларусі ў Польшчы ані па-беларуску, ані па-польску. Прыкра ды сорамна. А вось за Летуву чамусьці па-ранейшаму толькі радасна ды зайздросна па-добраму... Вось і ўся палітыка. А за ёй - ня ўпусьціць бы, мабыць, апошні шанц.

**Алесь ПУГАЧОЎ**
*"Пагоня" н-р 8 (22)*
*ад 9 - 16 красавіка 1993 г.*

## ТЭРОР І З'ЕЗД

Найболей праслаўленая савецкая арганізацыя, ВЧК (Чэка), была створана 20.12.1917 года як следчая ўстанова, аднак хутка ператварылася яна ў палітычную паліцыю, задачай якой стала элімінацыя палітычных апанентаў бальшавікоў. Жорсткія выказванні заснавальніка і першага начальніка раскрываюць яе характар: „Мы за арганізаваны тэрор.(...) Чэка гэта не суд.(...) Чэка абавязана бараніць Рэвалюцыю і перамагчы ворага, нават калі часам яе меч упадзе на галовы невіноўных".

Падчас бальшавіцкай рэвалюцыі чэкісты пазбавілі жыцця каля 200 тысяч людзей у выніку „афіцыйных" выкананняў „прыгавораў". Праўдападобна, далейшых 300 тысяч пазбаўлена жыцця ў выніку расстрэлаў пасля мясцовых паўстанняў, або з прычыны ўмоў, якія панавалі ў канцлагерах, заснаваных Чэка. Усё гэта варварства было кансеквенцыяй атрыманых ад партыі паўнамоцніцтваў, якія былі ў большай ступені загадам, чымсьці дазволам. Найболей палка заклікаў Чэка да дзейнасці сам Ленін. Падчас, калі болей прынцыповыя камуністычныя дзеячы пратэставалі супраць чэкісцкага садызму, Ленін у ліпені 1918 года сказаў: „Інтэнсіўнасць і масавасць тэрору мусім падтрымліваць, называючы апанентаў „абмежаванымі інтэлігентамі". Паслаў ён таксама загад да правадыроў Чэка ў Пензе, каб прымянялі „бязлітасны, масавы тэрор".

Тэарэтычна Чэка і яе тэрор сталі непатрэбнымі пасля перамогі бальшавікоў над апошнімі ўзброенымі атрадамі, якія ваявалі супраць рэвалюцыі. Згодна ленінскай тэорыі, цяпер рабочыя і сяляне, вызвалены ад прыгнёту, павінны былі аб'яднацца і ўвясці „дыктатуру пралетарыяту". Аднак рэчаіснасць выглядала зусім інакш: адчайнае супраціўленне бальшавіцкаму панаванню аказвалі менавіта рабочыя і сяляне ў форме страйкаў, дэманстрацый і бунтаў. Найболей вядомы бунт матросаў Кранштата ў сакавіку 1921 года. „Чырвоныя" матросы, якія з 1917 года былі авангардам рэвалюцыі, абвінавацілі камуністаў, што тыя замест свабоды прынеслі рабочым безупынны страх перад зверствамі Чэка, якія намнога жудаснейшыя за здзекі царскіх жандараў. Бальшавікі былі прымушаны пасланць Чэка супраць гэтых людзей, ад імя якіх правялі рэвалюцыю. Ленін зразумеў, што не прадстаўляючы нікога, апрача сябе, бальшавіцкая меншасць можа існаваць і трымаць ўладу толькі пры дапамозе сілы. У 1922 годзе пісаў ён да аўтараў новых крымінальных законаў: „Суды не могуць выключаць тэрору..., але мусяць яго ўзаконіць... Трэба гэта сфармуляваць так шырока, як толькі магчыма".

Паралельна з тэрорам у дачыненні да насельніцтва Ленін пачаў абмяжоўваць свабоды сярод сваіх саюзнікаў і ў самой партыі. Арыштавана і асуджана ў 1922 г. кіраўніцтвы партый, якія разам з бальшавікамі змагаліся падчас рэвалюцыі. Паслядоўна Ленін выкараняў права членаў партыі на дыскусію, супраціў, абарону сваіх поглядаў, ствараючы з яе свайго роду эксклюзіўны клуб, які даваў магчымасць атрымаць усялякія прывілеі ўзамен за абсалютную паслухмянасць. Члены партыі ставаліся актыўнымі абаронцамі такога парадку, які даваў ім прыбыткі, пазіцыі, кватэры, харчаванне і адпачынак, якога было пазбаўленае астатняе насельніцтва. Калі ў 1924 г. паміраў Ленін, будаўніцтва савецкай дзяржавы было ў асноўным завершана. Ён пакінуў савецкім народам дыктатуру алігархіі, фундаментам якой стала палітычная паліцыя — Чэка. Ён жа заснаваў прынцыпы, практыку і механізм дзеяння, звязаныя з тэрорам — фундаментам дыктатуры. Канцлагеры, арышты на аснове класавай прыналежнасці, прыгаворы і расстрэлы без працэсаў, канцэпцыя бязлітаснага масавага тэрору былі ўведзены не Сталінам, а Леніным. Тэрор, які дзесяткамі гадоў называецца сталінскім генацыдам, быў не чым іншым, як чыстым ленінскім. Сталін толькі прымяніў яго ў шаленча імпазантных размерах. Тэрор сталінскага перыяду забраў жыццё па меншай меры 20 мільёнам людзей. Пасля смерці Сталіна ў сакавіку 1953 г. і пазнейшай ліквідацыі Берыі і яго найбліжэйшых супрацоўнікаў, Хрушчоў злагодзіў тэрор, закрываючы многія канцлагеры і звальняючы многіх астрожнікаў. Хрушчоўскія перамены наступілі аднак не ў выніку нейкага гуманітарызму, а з чыста практычных прычын: тэрор дасягнуў такіх размераў, што ніхто ад яго не быў застрахаваны, нават найвышэйшыя эшалоны ўлады. Справа ў тым, што члены алігархіі, якія трацілі ласку, хацелі яшчэ застацца ў жывых: найболей яркім доказам хрушчоўскай „адлігі" было некрываваe звяржэнне самога Хрушчова ў 1964 г. Сам ён выдатна ведаў механізм тэрору, бо актыўна прымяняў яго на Украіне ў 30-х гадах. Яго сакрэтны даклад на XX з'ездзе КПСС, прачытаны 25 лютага 1956 г. пацвердзіў усе жудаснасці, якім Савецкі Саюз і яго сатэліты на працягу дзесяткаў гадоў запярэчвалі. Сам з'езд быў нейкім сюррэалістычным спектаклем, на якім адзін з галоўных будаўнікоў атмасферы тэрору расказваў яго ахвярам і выканаўцам у адных асобах пра некаторыя зверствы і злачынствы, без ніякага пакаяння называючы іх чужой віной. Не ўспаміналіся пры гэтым злачынствы, якіх седзячыя ў зале дапускаліся на зняволенай большасці насельніцтва. Прысутныя, здольныя і гатовыя прымяніць тэрор адны супраць другіх, горача адабралі гэтыя метады і назвалі пануючую сістэму найлепшай на свеце, а сябе, дажыўшую да гэтай хвіліны жменьку аблуднікаў, назвалі беспамылковымі ў сваёй калектыўнай мудрасці, затрымоўваючы сабе пры нагодзе неабмежаваную ўладу. Надзею на адмену тыраніі і карэнныя перамены партыя перакрэсліла ўжо 30 чэрвеня таго ж 1956 года, заявіўшы, што савецкі парадак будзе ўтрыманы, бо паміж ім і культам асобы Сталіна няма ніякай сувязі. Тыдзень пазней, 6 ліпеня, „Праўда" не аставіла нікому сумненняў наконт будучыні савецкага грамадства: „У нашай краіне камуністычная партыя была і будзе адзіным уладаром думак, адзіным веснікам, правадыром і арганізатарам народа."

**А.В.**

## "WALKA CIĄGLE TRWA"

Пад такім загалоўкам "Tydzień Polski" н-р 14 і 15, які выдаецца ў Лондане, надрукаваў артыкул польскага гісторыка Цэзары Хлябоўскага, пры якім славуты рэпартаж Казя Семянякі "Pod różnymi krzyżami" — гэта ўсяго малаістотная дробязь.

Прафесара Хлябоўскага да фурыі і белай гарачкі давяло пару артыкулаў у беларускай прэсе, у якіх адмоўна была ацэненая дзейнасць АК на беларускай зямлі, якую зрэшты ён не лічыць беларускай. Аўтараў гэтых артыкулаў называе вось такімі эпітэтамі: "publicyści trzeciej gildii", "dziennikarze-amatorzy", "memuaryści", "nacjonalistyczni derwisze", "postbolszewickie kadry". "Prawdziwi historycy milczą" - (беларускія - Я. М.) - піша пан прафесар.

Цэзары Хлябоўскі як бы забыўся, хто з кім падпісваў дагавор у Рызе і якое было стаўленне беларускіх палітыкаў да гэтай падзеі. Цэлы партызанцкі рух на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў гадах 1921 - 1926 называе "sowieckimi bandami", хаця праўдападобна добра ведае, хто яго арганізаваў, як і тое, што ліквідаваны быў ён саветамі. Магчыма, што паводле вучонага і Слуцкае паўстанне арганізавалі бальшавікі, а пасля яго разбілі. Пра скамунізаваную натуру беларусаў і "справядлівы" адпачынак, арганізаваны ўладамі Рэчыпаспалітай у турмах і Картуз-Бярозе піша аўтар без ніякіх сумненняў. Ад верасня 1939 г. беларус — гэта сінонім сталініста, энкавэдыста, лайдака. "Pytam - піша пан Хлябоўскі - kto ustalał imienne listy przeznaczonych do branki, wywózek czy na rozstrzały? Stalin? Kto chodził w "społecznych trójkach" świtaniem od domu do domu, budził rozespane dzieci, oddzielał starców od rodzin? Też Stalin? Kto rozkradał mienie wywiezionych z ich domów...? Też Stalin? Do tego była potrzebna armia chętnych...? Пасля прачытання некалькіх фразаў нават разважны чалавек можа пераканацца, што беларус здольны да найгоршых зверстваў, а подласць проста выплывае з яго натуры.

"W czerwcu 1941 r. przyszli Niemcy. Pozostali Polacy oraz ci, którym udało się uciec przed sowiecką wywózką do G G, a teraz wrócili i szukali odwetu. Niektórzy wymierzali sprawiedliwość sami, inni sięgali do donosów do Niemców".

У гэтым месцы ўжо няма дэталяў. Канец, кропка. Падчас нямецкай акупацыі беларускі бок — гэта савецкая партызанка, арганізаваная былымі энкавэдыстамі. Але і ў гэтым месцы няма ні слова пра сяброўства паміж АК і гэтымі партызанамі, якое парвалася толькі ў палове 1943 г. Змаганне паміж акоўцамі і бальшавікамі ад 1943 года пан прафесар бачыць як барацьбу паміж палякамі і беларусамі. Трактуючы саветаў як беларусаў, не заўважыў ён адначасова сапраўднага нацыянальнага беларускага руху, які імкнуўмя рэалізаваць свае мэты, выкарыстоўваючы прыхільнасць немцаў для гэтай ідэі.

Пра Астроўскіх, Гадлеўскіх, Іваноўскіх невыгодна аднак пісаць польскаму гісторыку. Чорна-белы свет больш зразумелы. Пан Хлябоўскі не ёсць жа нацыяналістам, піша таксама і пра "dobrych Białorusinów". Пералік "zbrodni sowiecko-białoruskich" даволі вялікі. Прафесар прапануе надрукаваць кніжку пра гэтыя злачынствы на польскай і рускай мовах і раздаць яе маладым беларусам.

Будучы ў мінулым годзе ў Лідзе пан прафесар пераконваў беларусаў такімі аргументамі: "W 1940 r. nie było miesiąca, aby żołnierz polskiej konspiracji czyli AK, nie dokonał w okupowanym kraju od 6 do 10 tysiecy sabotaży. A wy - tym czasie produkowaliście miliony ton zboża dla hitlerowskiego Wermachtu, dostarczaliście mu do ostatniej chwili, czyli do czerwca 1941 r. wysokogatunkowej benzyny, stali, wolframu, molibdenu. Słowem, żołnierz niemiecki wypasiony waszym chlebem zdobywał Paryż, a bomby odlane z waszej rudy i wyniesione nad Londyn waszą benzyną zabijały tysiące Brytyjczyków". Te niezbyt przyjemne dla nich, ale jakże prawdziwe momenty wojny należy ciągle im przypominać, піша далей Цэзары Хлябоўскі, aby pojęli, że nie wszyscy oni mają moralne prawo porównywać się z nami, z naszą Armią Krajową".

"Nie mamy żadnych powodów, aby ulegać białoruskiemu kłamstwu. Trzeba je z całą mocą odbijać i przygważdżać przypominaniem stanu faktycznego - закончыў свой артыкул вучоны.

Тое, што надрукаваў лонданскі тыднёвік было б магчыма забаўнае, калі б аўтарам такога артыкула быў "publicysta trzeciej gildii". Але прафесар Ц. Хлябоўскі з'яўляецца ў Польшчы шанаваным аўтарытэтам, яго кніжкі выдаваліся вялікімі тыражамі. Без сумнення ведае напэўна і праўду. Але відаць дайшоў да вываду, што "walka ciągle trwa". Толькі з кім і за што?

**Апрацаваў Я. М.**



 

# НАШЫ КАРАНІ

## LIII. ПАД КНЯГІНІНАЙ АПЕКАЙ

Прыбыццё вялікай князёўны Галены з маскоўскага Крамля ў віленскі Верхні замак, а потым на Вавель было для прасаваўных у Беларускай дзяржаве (Вялікім княстве Літоўскім) і Каралеўстве Польскім, як быццам з'яўленне Анёла-Ахоўніка. Ужо сама прысутнасць яе і праваслаўнага духавенства з княгінінай світы ў вялікакняскіх і каралеўскіх пакоях падбадзёрвала праваслаўнае насельніцтва, натхняла на абарону сваё веры і сваіх правоў. Затым само ўсведамленне, што другая па важнасці асоба ў княстве ці каралеўстве, — гэта праваслаўная вялікая княгіня ці „жонка караля польскага", за якой стаіць вайсковая сіла Маскоўскай дзяржавы, моцна прытупіла нават самых вострых каталіцкіх фанатыкаў ад выпадаў супраць праваслаўных.

Аднак гэтае суцішэнне не наступіла адразу. Насаджэнне уніі, што распачалося ў Беларускай дзяржаве раней, ды ціхія спадзяванні, што яе ўдасца перакінуць у Маскоўскае княства, працягваліся. Патаемны уніят, смаленскі епіскап Іосіф Балгарыновіч, як толькі атрымаў у 1497 г. па просьбе вялікага князя Аляксандра бласлаўленне ў мітрапаліта ад патрыярха канстанцінопальскага, адразу накіраваў папе рымскаму Аляксандру VI вернападданніцкі ліст, у якім, між іншым, пісаў: *„... я верую і вызнаю, што ты — пастыр усіх веруючых і галава Сусветнай Царквы і ўсіх святых айцоў і патрыярхаў. Перад табой мы паслухмяна схіляем галовы нашы ва ўсёй пакорлівасці і добрай волі, не пад прымусам або з-за неабходнасці, але па шчырасці веры і сардэчнай любові. Чакаем ад твае святасці свяцейшага бласлаўлення, таму што табе перададзены ключы Царства Нябеснага і ўлада вязаць і рашаць... Мы ўпэўнены, падаючы перад табою на зямлю і цалуючы ногі твае, што ты здзейсніш пажаданні сэрца нашага і не адкінеш прыбягаючага пад тваю апеку"*. Што ж, сённяшняе халуйства некаторых беларускіх „правадыроў" мае гістарычную традыцыю... Нягледзячы на вельмі халодныя адносіны папы Аляксандра VI да гэтага ліста, Балгарыновіч з незвычайнай ахвярнасцю кінуўся ўводзіць унію, між іншым, супольна з каталіцкай іерархіяй, спрабаваў, хаця і няўдала, як мы ўжо ведаем з папярэдняга, перахрысціць у каталіцызм, або хоць ва унію, вялікую княгіню Галену.

Адыход многіх праваслаўных князёў, магнатаў, баяраў з-за рэлігійнага прыгнёту ў Маскоўскае княства, паражэнні ў вайне з Масквою і ў выніку іх аграмадныя тэрытарыяльныя страты, а ў тым самым часе патрыятычная адданасць прасаўлаўных вояў (паўшых, напрыклад, у бітве на Вядрошы) і военачальнікаў (пакуты ў маскоўскай няволі гетмана Канстанціна Астрожскага) у абароне роднай краіны ад захопнікаў — усё гэта з цягам часу прымусіла суцішыцца нават найбольш напаленых ахвотнікаў пасадзіць усіх праваслаўных пад ключ Апостальскай сталіцы. Гасподзь не дазволіў ім доўга здзекавацца з праваслаўных: усяго год быў мітрапалітам Іосіф Балгарыновіч і сышоў з гэтага свету, следам за ім пайшлі кардынал кракаўскі Фрэдэрык, арцыбіскуп віленскі Войцех і папа рымскі Аляксандр VI.

Прыйшлі новыя людзі, склаліся іншыя абставіны і значна палепшыліся адносіны да праваслаўных. Гэтыя перамены асабліва кідаліся ў вочы ў стаўленні караля і вялікага князя Аляксандра Ягелончыка да праваслаўнае Царквы. Зрэшты, факты паказваюць, што ён пераважна адносіўся да праваслаўных (прынамсі ў душы) з развагаю і пераважна прыхільна, усведамляў сабе, што яны складаюць асноўную частку яго падданых і самых блізкіх супрацоўнікаў як у Вільні, так і ў Кракаве. Таму нярэдка бываў глухім на дамаганні каталіцкай іерархіі, а нават самога папы рымскага (напрыклад, у справе перавядзення ў каталіцызм княгіні Галены), не быў супраць абмінуць непрыхільныя для іх пастановы сваіх папярэднікаў. Гэтак, для прыкладу, устаноўленую яшчэ Вітаўтам і затым пацверджаную каралём Казімірам Ягелончыкам забарону будаваць новыя і рамантаваць старыя праваслаўныя храмы Аляксандр адносіў толькі да каралеўскіх і вялікакняскіх уладанняў, а ў прыватных маёмасцях сваіх падданых не толькі не забараняў, але разам з Галенаю нават заахвочваў будаваць новыя і абнаўляць старыя цэрквы. А каб і ў вялікакняскіх ці каралеўскіх уладаннях даць магчымасць царкоўнаму будаўніцтву, надаваў адпаведныя землі ці пляцы ў гарадах вялікай княгіні Галене, а тая скарыстоўвала іх на пабудову праваслаўных храмаў і манастыроў. Гэтак у канцы XV і асабліва на пачатку XVI ст. ст. стан і колькасць праваслаўных храмавых аб'ектаў выдатна папраўвіўся. Тады, дарэчы, паўсталі новыя цэрквы на землях сённяшняга Падляшша: у Гарадку (1498), Супраслі, Орлі, Кодані, Касной (усе ў 1500 г.), Бацютах і Бельску-Падляшскім (1506), Хварошчы (1510), Боцьках і Красным Бары (1513). Настаàлі часы паступовага роскваіту праваслаўнага духовага жыцця: толькі на Падляшшы тады паўсталі манастыры: у Гарадку-Супраслі (1498-1500), Яблачыне (1497), Драгічыне і Бельску-Падляшскім (каля 1500 г.). Дзякуючы намаганням княгіні Галены і яе праваслаўнага акружэння наладзіліся сувязі паміж Цэрквамі Маскоўскай і Навагрудскай мітраполій, абмен багаслоўскімі кнігамі, іконамі, літургічным начыннем, узорамі храмавага будаўніцтва і г.д. Усё гэта ўплывала ўзаемна ўзбагачаюча і ўзбагачаюча духовае жыццё ўсходніх славян. Як мяркуе беластоцкі гісторык д-р А. Міргановіч, славутая ікона Божай Маці з Дзіцём, якая цяпер знаходзіцца ў Свята-Прачысценскай царкве ў Бельску-Падляшскім, была прывезена з Масквы і ахвяравана княгіняй Галенай каля 1498 г. Таксама бясцэнная рэліквія (кавалачак дрэва ад Крыжа, на якім памёр Ісус Хрыстос) для гарадоцка-супрасльскага манастыра была прывезена з Масквы і ахвяравана княгіняй.

Галена і яе прыхільнікі паклапаціліся ў караля Аляксандра пра тое, каб у мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі пасля смерці Балгарыновіча быў пастаўлены чалавек непахісны ў веры праваслаўнай, архімандрыт мінскага Свята-Узвінясенскага манастыра Іона. Мітрапаліт Іона, між іншым, унёс памятны ўклад у гісторыю праваслаўя на Беластоцкай зямлі, менавіта ў 1504 годзе ён наведаў Супрасль і пасвяціў краевугольны камень пад славутую Свята-Благавешчанскую царкву. За яго, хоць і нядоўга (1503-1507) пастырства, праваслаўная Царква магла ўжо болей свабодна ўздыхнуць і адносна спакойна весці сваю духоўную дзейнасць. Але сталася тое ўсё дзякуючы перш за ўсё вялікай княгіні Галене Іванаўне.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

## СВЯТЫ МУЧАНІК ГАЎРЫІЛ ЗНОЎ У ЗАБЛУДАВЕ

Дзень 3 мая (20.04. па старому стылю), у які ўшаноўваем памяць Святога Мучаніка Гаўрыіла, ад нейкага часу ў Заблудаве адзначаецца вельмі ўрачыста. Звязана гэта з адраджэннем на тэрыторыі Беластоцка-Гданьскай епархіі, а таксама і па ўсёй Беласточчыне і Польшчы, культу Святога Мучаніка Младзенца Гаўрыіла Заблудаўскага. Завяршэннем гэтага, па Божай волі, было перанясенне ў днях 21-22 верасня 1992 г. Мошчаў Святога Гаўрыіла з Гродна ў Беласток. У гэтым годзе свята ў Заблудаве адзначалі асабліва ўрачыста. Мошчы Святога, якія ў 1755 г. былі вывезены з Заблудава і захоўваліся ў розных мясцінах (Слуцк, Беласток, Супрасль, зноў Слуцк, Менск і Гродна), зноў пасля многіх гадоў прыбылі ў родны прыход. Урачыстасці пачаліся напярэдадні свята, 2 мая, пешым паломніцтвам, арганізаваным Брацтвам праваслаўнай моладзі Беластоцка-Гданьскай епархіі, якое выйшла з прыхода Дайліды ў Беластоку. Удзельнічала ў ім каля тысячы чалавек, у тым ліку многа моладзі і дзяцей, заступнікам якіх з'ўляецца Святы Гаўрыіл. На чале пілігрымкі знаходзіліся крыж і ікона Мучаніка, напісаная ў 1988 г. па заказу беластоцкай моладзі. З аднаго боку іконы — вывява яе Заступніка, з другога — вывявы святых Уладзіміра і Ольгі, што падкрэслівае юбілей 1000-годдзя Хрышчэння Русі. У вёсцы Зверкі хлебам і соллю прывіталі паломнікаў вернікі Заблудаўскага прыхода. Пасля малебна, які служыўся на месцы даўняй царквы, паломнікі пайшлі ў напрамку Заблудава. На ўскраінах мястэчка спалучыліся яны з хрэсным ходам, які выйшаў з царквы сустрэць Святыя Мошчы. Далей Мошчы неслі духоўныя і моладзь. На гэты час дарожны рух на галоўнай вуліцы, па якой ішлі пілігрымы, быў спынены. Калі Мошчы Мучаніка Гаўрыіла апынуліся ў царкве, слова ўзяў архіепіскап Сава, які падкрэсліў значэнне факту вяртання Мошчаў на Беласточчыну і прабыванне Іх у родным прыходзе. Пасля пачалося Усяночнае дбанне. Служылі архіепіскап Сава і архіепіскап Валянцін (гродзенскі і ваўкавыскі) у саслужэнні шматлікага духавенства, а затым служыўся акафіст Мучаніку Гаўрыілу. Багаслужэнні, якія працягваліся амаль усю ноч, узбагачаліся царкоўнымі спевамі пілігрымаў. Многія вернікі прыступілі да Таінства Споведзі і Прычасця. Першая Літургія служылася а 6 раніцы. У ёй прымалі ўдзел пераважна паломнікі, якія ўсю ноч правялі ў царкве. Галоўную Літургію служылі архіепіскап Сава і Валянцін, а таксама епіскап Ерэмія (вроцлаўскі і шчэцінскі) у саслужэнні шасцідзесяці духоўных і ў прысутнасці вялікай колькасці вернікаў. Не ўсе змясціліся ў царкве і частка з іх знаходзілася вакол храма. Духоўныя і вернікі прыбылі ў Заблудаў з розных прыходаў Беласточчыны і іншых раёнаў. Трэба асабліва адзначыць паломніцтва групы вучняў бельскай „тройкі", якія са сваім катэхетам ў Заблудаў ішлі пехатою. Усе яны прыступілі да Таінства Пакаяння і Прычасця. Таксама ў пешым паломніцтве з Беластока ўдзельнічалі групы дзяцей з падставовых школ, арганізаваныя катэхетамі.

Пасля Літургіі адбыўся хрэсны ход са Святымі Мошчамі вакол царквы. Трэба адзначыць, што ад пачатку да канца знаходжання Мошчаў Святога Мучаніка Гаўрыіла ў царкве пастаянную варту неслі па двое духоўных і моладзі, якія змяняліся кожную гадзіну.

Сёлетнія ўрачыстасці даказалі, што культ Мучаніка Гаўрыіла, Святога нашай Бластоцкай зямлі, пастаянна развіваецца і замацоўваецца сярод нашых вернікаў. Спадзяемся, што з кожным годам штораз больш людзей будзе прымаць удзел у святе і паломніцтве, што бывае напярэдадні.

**Святы Мучаніча Младзенча Гаўрыіле, Заступніку дзяцей і моладзі, малі Бога пра нас!**

**С. Н.**

## ПЕРАНЯСЕННЕ МОШЧАЎ СВЯЦІЦЕЛЯ МІКАЛАЯ



Праваслаўе вельмі моцна прывязана да постаці Свяціцеля і Цудатворца Мікалая. Ягоны культ шырока распаўсюдзіўся як сярод грэкаў, так і сярод славянскіх народаў. Царква ўрачыста ўшаноўвае дзень Яго смерці (снежань), а таксама і перанясенне Мошчаў Свяціцеля. Гэты дзень адзначаецца 22 мая (9 мая па ст. стылю).

Пасля смерці Мошчы Св. Мікалая былі пахаваны ў Мірах Лікійскіх і неўзабаве пачалі выдзяляць цудатворнае міра. Гісторыя Іх перанясення спалучаецца з наездамі туркаў, якія спустошылі Малую Азію. У II палове XI ст. ад туркаў моцна пацярпела таксама і правінцыя Лікія. Праз нейкі час пасля наездаў Свяціцель Мікалай аб'явіўся аднаму духоўнаму ў горадзе Бары на поўдні Італіі (тады гэтая тэрыторыя знаходзілася ва ўладанні Візантыйскай Імперыі). Перадаў Ён духоўнаму, каб Яго Мошчы перанеслі ў гэты горад і тут пахавалі. Здарылася гэтае ў 1087 годзе пры панаванні імператара Аляксея Комніна. Мошчы спачатку перанеслі ў царкву св. Яна Хрысціцеля, а потым умясцілі ў спецыяльна пабудаваным храме Св. Мікалая, дзе яны і знаходзяцца дагэтуль.

Прыкладам прывязанасці вернікаў да постаці Свяціцеля Мікалая з'яўляюцца многія цэрквы, прысвечаныя Яму, таксама і на Беласточчыне: між іншым, у Беластоку (кафедра), Драгічыне, Белавежы, Міхалове, Градзіску, Коснай, Нараўцы, Новым Двары ці Тапільцы.

Свяціцель Мікалай з'яўляецца апекуном падарожнікаў, а асабліва маракоў.

Рэпрадукаваная побач ікона была асвячоная на Мошчах Св. Мікалая ў горадзе Бары ў 1973 г.

**С.Н.**

## НЕПАТРЭБНЫЯ ШКОЛЫ

*(пачатак у папярэднім нумары)*

Пасля дзяржаўнага перавароту Пілсудскага ў маі 1926 г. новая палітычная эліта зрабіла некалькі жэстаў ў бок нацыянальных меншасцяў. Гэта мела пераканаць іх, што санацыя рэалізуе ранейшыя федэрацыйныя канцэпцыі Маршала. Некалькі палітыкаў з гэтага лагера, як Леан Васілеўскі, Тадэуш Галуўка, Казімеж Младзяноўскі, праўдападобна шчыра імкнуліся выпрацаваць такую нацыянальную палітыку, пры якой меншасці маглі б лічыць Рэчыпаспаліту сваёй айчынай, захоўваючы адначасова сваю тоеснасць. Начальнік Усходняга аддзела Міністэрства замежных спраў Т. Галуўка прапанаваў, каб дзяржава падтрымала ўсе працэсы, якія вялі да развіцця беларускай нацыянальнай свядомасці, ствараючы перш за ўсё адпаведную асветную сістэму і „беларутэнізацыю” рэлігійнага жыцця. Польшча мела закасаваць БССР талерантнасцю, дыяпазонам свабодаў і ўзроўнем эканамічнага жыцця.

У 1927 г. міністр па справах веравызнанняў і публічнай адукацыі Густаў Дабруцкі выдаў распараджэнне, каб у польскіх ліцэях на тэрыторыі Заходняй Беларусі абавязкова ўвесці беларускую мову, прынамсі, як прадмет. Дзве беларускія гімназіі — у Навагрудку і Вільні — атрымалі званне дзяржаўных школаў, а 12 настаўнікаў — штаты. У 1928 г. існавала ўжо 26 школ з беларускай мовай навучання, у якіх вучылася 1960 вучняў і 49 школ, дзе частка прадметаў вялася на беларускай мове (5670 вучняў). Год пасля ў Віленскім універсітэце адкрылі кафедру беларускай мовы, а ў настаўніцкіх семінарыях у Троках, Вільні, Шчучыне, Барунах, Слоніме і Нясвіжы беларуская мова была ўведзена як абавязковы прадмет.

Перыяд гэтай ліберальнай палітыкі санацыі трываў вельмі каратка. Зрэшты, на пачатку 30-х гадоў радыкальна змянілася палітыка Пілсудскага ў дачыненні да ўсёй польскай апазіцыі. Скрываную дыктатуру санацыя заступіла тэрарыстычнымі метадамі кіравання, якія давялі да г. зв. „брэсцкіх выбараў” і „брэсцкага працэсу”.

У 1931 г. былі закрыты ўжо 2 з ліку 4 беларускіх ліцэяў — у Радашковічах і Клецку. Рашэнне гэтае віленскі куратар тлумачыў нізкім узроўнем навучання ў гэтых школах. У існуючых яшчэ гімназіях — у Вільні і Навагрудку — было скарочана 50 % агульнай колькасці настаўніцкіх штатаў, а ў 1932 г. яны сталі філіяламі польскіх ліцэяў. У 1937 г. засталася ўжо толькі адна беларуская школа — філіял Дзяржаўнай гімназіі ў Вільні.

У канцы трыццатых гадоў ніхто ўжо нават і не патрабаваў ніякіх беларускіх школ. Большасць асветных дзеячоў сядзела ў турмах. Абвінавачваліся яны ў антыдзяржаўнай дзейнасці. Штрафы, таямнічыя разбоі на настаўніках, псіхалагічны тэрор стварылі такую сітуацыю, у якой нават фармуляванне нейкіх пастулатаў у гэтай галіне стала немагчымым. Напярэдадні вайны стварылася вельмі нядобрая атмасфера, якая рашуча паўплывала на польска-беларускія адносіны падчас акупацыі.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**



У папярэдніх нумарах „Нівы” мы друкавалі ліст жыхароў Рагачоў і навакольных вёсак наконт закрыцця мясцовай школы (н-р 18), а таксама рэпартаж Міколы Ваўранюка з гэтых мясцін (н-р 19). Ніжэй публікуем ліст войта Мілейчыцкай гміны ў гэтай справе.

* * *

W odpowiedzi na złożoną skargę do Wojewody Białostockiego z dnia 6 kwietnia 1993 roku, wyjaśniam co następuje:

Aktem likwidacyjnym z dnia 26 maja 1992 roku Kuratorium Oświaty w Białymstoku likwiduje z dniem 31 sierpnia 1992 roku Szkołę Podstawową w Rogaczach. Wobec tego dzieci z obwodu szkolnego Rogacze od 1 września 1992 roku uczęszczają do Szkoły Podstawowej w Milejczycach.

Szkoła Podstawowa w Rogaczach mogłaby funkcjonować gdyby uczęszczało co najmniej 56 dzieci. Natomiast w obwodzie szkoły Rogacze jest 32 dzieci. Fakt ten także powoduje, że nie można zorganizować nawet filii Szkoły Podstawowej w Rogaczach z niżej podanymi oddziałami np:

1/ w oddziale I-III powinno być co najmniej 15 dzieci — jest 11 dzieci,

2/ w oddziale I-V powinno być co najmniej 25 dzieci — jest 16 dzieci,

3/ w oddziale I-VI powinno być co najmniej 30 dzieci — jest 20 dzieci.

Dlatego też w związku z bardzo niską liczbą dzieci w różnych grupach wiekowych nie występują możliwości organizacyjne na reaktywowanie szkoły lub utworzenie filii.

Nie zakazujemy i nie utrudniamy dzieciom w nauce języka białoruskiego. Jest to tylko i wyłącznie sprawa dzieci a nie Wójta Gminy. W Szkole Podstawowej w Milejczycach istnieje możliwość nauczania języka białoruskiego ponieważ są nauczyciele. Jednak jest zauważalna tendencja, że dzieci nie chcą się uczyć tego języka. Nauczany jest z języków obcych język angielski i rosyjski.

W roku szkolnym 1992/93 dzieci w liczbie 32 z obwodu szkolnego Rogacze dowożone są autobusami do Szkoły Podstawowej w Milejczycach. Zorganizowano 2 przystanki. Jeden przy Remizie OSP i drugi na skrzyżowaniu dróg Gołubowszczyzna-Lewosze-Borowiki. Droga dziecka z domu do przystanku wynosi w chwili obecnej od 0,2 km—1,5 km. Natomiast gdy funkcjonowała szkoła w Rogaczach droga dziecka z domu do szkoły wynosiła powyżej 4 km, więc została skrócona około 2,5 km.

Nie tylko dzieci z obwodu szkolnego Rogacze są dowożone do Szkoły Podstawowej w Milejczycach. Do szkoły dowożone są dzieci z terenu całej gminy. Zorganizowano 3 trasy dowozu i określone są miejsca przystanków dla dzieci dojeżdżających do szkoły. Mimo trudności finansowych Gminy dowóz dzieci odbywa się bez wsparcia finansowego rodziców. Przejazdy są bezpłatne. W czasie przewozu z domu i do domu autobusami dzieci znajdują się pod opieką pracownika Urzędu Gminy.

Ustawa z dnia 7 września 1991 roku o systemie oświaty art. 17 pkt 3 mówi: „jeżeli droga dziecka do szkoły przekracza 3 km dla uczniów klas I-IV oraz 4 km dla uczniów klas V-VIII i nie ma możliwości korzystania z komunikacji publicznej, obowiązkiem gminy jest zapewnienie dzieciom bezpłatnego transportu i opieki w czasie przewozu”. Transport jest zapewniony i opieka nad dziećmi w czasie przewozu jest zapewniona nie tylko w Rogaczach, ale wszystkim dzieciom z poszczególnych wsi z całej gminy. Gmina nie ma obowiązku organizowania poczekalni ogrzewanych i opieki nad dziećmi w tych poczekalniach. We wsi Rogacze jest świetlica OSP i nikt nie będzie stawiał przeszkód na jej otwieranie rano na poczekalnię dla dzieci. Jednak rodzice muszą zapewnić opiekę do chwili przyjazdu autobusu szkolnego. Twierdzenie, że nie zorganizowano żadnej opieki nad dziećmi jest kłamstwem i pomówieniem. W czasie dowozu dzieci opieka jest, zatrudnieni są etatowi pracownicy. Dzieci były i są dowożone do Gołubowszczyzny do skrzyżowania dróg Gołubowszczyzna-Lewosze-Borowiki i stąd mają najbliżej do domu. Nikt nie podejmował decyzji o zmianie kursu autobusu i nikt z rodziców nie interweniował w sprawie dowozu dzieci. Jest to złośliwość osoby, która pisała tą skargę, byłej nauczycielki Tokajuk Julii, która jest obecnie bez pracy. Czyni starania aby znowu powstała Szkoła Podstawowa w Rogaczach, ale według mnie nie w ten sposób.

Dowóz kosztuje drogo, ale tego obowiązku nikt jeszcze nie zdjął z gminy. Wyrażenie „Dlaczego znęcają się nad naszymi dziećmi — czyżby dlatego, że są Białorusinami” jest brednią, jest to chwyt poniżej pasa, są to poglądy nacjonalistyczne piszącego. Na pytanie, dlaczego w ogóle nasza szkoła została zlikwidowana, odpowiadam po raz drugi: dlatego, ze jest bardzo mało dzieci (32 uczniów). Szkoła jest piękna, ale o wynikach nauczania może powiedzieć tylko Kuratorium, a nie rodzice. Z taką małą ilością dzieci istnienie szkoły nie ma racji bytu pod względem finansowym, a nawet dydaktycznym, ponieważ w klasach byłoby 1, 2 lub po 4 uczniów.

Szkoła może być reaktywowana w każdej chwili, jeżeli będzie odpowiednia liczba dzieci. Przy takiej liczbie dzieci, jaka jest obecnie, szkoły być nie może. W trakcie wyjaśnień skargi wielu rodziców oświadczyło, że są bardzo zadowoleni z dowozu dzieci do Szkoły Podstawowej w Milejczycach. Twierdzili, że w szkole w Milejczycach dzieci lepiej się uczą, jest wyższy poziom nauczania, lepiej są przygotowani nauczyciele do zawodu, dzieci na miejscu mają obiady. Natomiast w Rogaczach był niski poziom nauczania, nauczyciele po prostu odrabiali „pańszczyznę”. Wielu rodziców nie czytało skargi i nie wie do chwili obecnej, co w niej jest napisane. Na oddzielnej kartce zbierane były podpisy po to, aby w Rogaczach ponownie została utworzona szkoła podstawowa.

**WÓJT**
**Mikołaj Bortniczuk**

## БЕЛАРУСКІЯ ХАРЫСТЫ Ў ЗЯЛЁНАЙ ГУРЫ

Беларускі акадэмічны хор з Менска ўжо другі раз наведаў Любушскую зямлю. Сёлета быў ён госцем II Міжнароднай музычнай сустрэчы „Усход-Захад”, арганізаванай філармоніяй у Зялёнай Гуры. Хор існуе ўжо звыш пяцідзесяці гадоў і лічыцца адным з лепшых хораў у былым СССР. У ім бяруць удзел (за адным таленавітым выключэннем) выпускнікі музычных ВНУ, не толькі вакалісты, але і інструменталісты, дырыжоры, а нават і кампазітары.

Дырыжорам і мастацкім кіраўніком хору з'яўляецца Людміла Яфімава, выпускніца кансерваторыі ў Пецярбургу, а адміністрацыйным дырэктарам і імпрэсарыо — Міхал Літвін. Гэты прафесійны хор існуе як самастойны калектыў і выступае ў двух катэгорыях — а капэла і з суправаджэннем. Уваходзіць ён у састаў вялікага мастацкага калектыву, якім з'яўляецца Дзяржаўная філармонія Беларусі, дзе працуюць яшчэ сімфанічны, камерны і фальклорныя аркестры і калектывы. Хор, як самастойная фінансавая арганізацыя, атрымоўвае датацыю з дзяржаўнага бюджэту.

Кожны ўдзельнік хору мае індывідуальныя заняткі спевамі, а хор шэсць разоў на тыдзень праводзіць чатырохгадзінныя рэпетыцыі. У планах зафіксавана 66 канцэртаў у год, але на практыцы іх атрымоўваецца 80. На працягу года рыхтуецца 8-10 новых праграм. Рэпертуарны план складае галоўны дырыжор. Ад нядаўняга часу хор мае магчымасць выязджаць за граніцу. 50 гадоў хор спяваў ва ўсіх савецкіх рэспубліках, на працягу апошніх трох гадоў выступіў таксама ў Польшчы, Нямеччыне, Грэцыі, Італіі, Іспаніі (на Алімпійскіх гульнях у Барселоне).

З абедзвюх пабывак ў Зялёнай Гуры харысты вынеслі вельмі мілыя ўражанні. Завязалі яны новыя знаёмствы, перапісваюцца з польскімі сябрамі, плануюць прыватныя паездкі. Апошняя вандроўка адбылася на кошт артыстаў (самі аплацілі транспарт, паліва, зарплату шафёрам). У гэтым годзе беларускія спевакі былі яшчэ больш задаволены. На канцэртах у Жагані і Жарах на іх канцэртах было шматлюдна.

**МЕЧЫСЛАЎ ВАЕЦКІ**

## З ПЕРСПЕКТЫВЫ ПАЎВЕКА

Апошнім часам у сродках масавай інфармацыі шмат месца адводзіцца яўрэйскай мартыралогіі падчас II сусветнай вайны. Пра *Holocaust* пішуць і гавораць публіцысты і гісторыкі, ушаноўваюць памяць загінуўшых палітыкі.

У днях 29-31 сакавіка Яўрэйскі гістарычны інстытут у Польшчы ладзіў у Варшаве міжнародную навуковую канферэнцыю, прысвечаную паўстанню і яго пацыфікацыі ў найбольшым у Еўропе гета. „Мы лічым, што 50-ці гадоў, якія прайшлі з моманту гэтага найвялікшага ў гісторыі злачынства, — заявіў Арганізацыйны камітэт, — дастаткова, каб падсумаваць навуковыя доследы ў гэтай галіне і абмеркаваць пэўныя аспекты, якія раней даследчыкі па розных прычынах, абыходзілі бокам”.

Удзельнікі канферэнцыі не абмежаваліся чыста навуковай дыскусіяй, але закранаяі і справы, звязаныя з маральнасцю, адказнасцю за той ці іншы выбар, тую ці іншую пазіцыю ў экстрэмальны час.

„Спакойная рэфлексія да розных аспектаў гітлераўскай палітыкі тэрору і генацыду сёння, калі з аднаго боку, адыходзіць пакаленне відавочцаў і ахвяр, а з другога — падымаюцца галасы, якія аспрэчваюць самое існаванне лагераў смерці ды адказнасць Трэцяга Рэйха за генацыд — патрэбная больш, чымсьці калі-небудзь раней”, — чытаем у заяве Аргкамітэта. І далей: „Верым, што наша канферэнцыя будзе сціплым укладам у пабудову лепшай будучыні, бо яна нясе з сабой свабодную ад замоўчвання інфармацыю пра мінулае. Грамадствам Цэнтральна-Усходняй Еўропы, якія апынуліся на няпростай дарозе да дэмакратыі, такія веды асабліва патрэбныя”.

Цяжка з гэтым не пагадзіцца. Там, дзе замоўчваецца праўда, дзе няма свабоды інфармацыі, родзяцца стэрэатыпы, прадузятасці, канфлікты.

З вялікай нецярплівасцю чакаю публікацыі матэрыялаў з гэтай канферэнцыі.

**ак**

# НАРЫЎ

Я абудзіўся ад моцнага болю ў левай руцэ. Дакучаў вялікі нарыў на далоні, да якога нельга было дакрануцца. За акном была цемра, а навокал — ціха, і толькі час ад часу чуўся за сцяной шорах ветру ў галінах вялікага вяза ля майго акна. Я не мог больш заснуць, але не мог таксама падняцца з ложка і выйсці, каб не разбудзіць фраў Ліпман і яе дзяцей, якія спалі ў суседнім пакоі за кухняй. Трэба ляжаць і чакаць, пакуль за акном не пасвятлее і яны самі не ўстануць. Трэба будзе прасіць яе, каб завязла мяне да лекара ў горадзе, кіламетраў дзесяць адсюль. Я выцягнуў руку на падушцы і чакаў. У галаву прыходзілі розныя думкі і ўспаміны. Я пачаў баяцца заражэння крыві і ампутацыі рукі. Жыву я тут усяго толькі дзевяць дзён. Нечакана прыпомніўся дзень, калі солтыс прынёс мне паведамленне аб высылцы мяне на работы ў Германію.

17 сакавіка 1943 года я павінен абавязкова прыйсці ў восем гадзін раніцы на чыгуначную станцыю ў Кляшчэлях. Такую вестку атрымалі многія мае знаёмыя, сябры і сяброўкі з Чаромхі. Два тыдні раней прыехаў у водпуск з Германіі наш знаёмы, Мірон. Яго выслалі туды дзесьці год таму, а цяпер нечакана адпусцілі на два тыдні дамоў. Гэта быў першы падобны выпадак за ўвесь час акупацыі, а вывезлі з вёскі ўжо многа чалавек. Мірон у час водпуску спатыкаўся з намі, пахваляўся веданнем нямецкай мовы, а перад выездам назад пайшоў у нямецкую жандармерыю і падаў спісак некалькіх сваіх знаёмых, якіх можна вывезці ў Германію. Адна з асоб, пазначаных у тым спіску падала дадзеныя на другіх кандыдатаў, у тым ліку і на мяне. Не ведаю, чым кіраваўся той чалавек, ці толькі зайздрасцю, ці немцы яму нешта паабяцалі, але на ягоным сумленні ляжыць віна выдачы немцам сваіх сяброў і сябровак на блуканне ў чужыне, з якой некаторыя не вярнуліся дамоў. Мне цяжка было зразумець, як чалавек можа дайсці да такога маральнага падзення.

З маткай і сястрою я развітаўся ў хаце, а з бацькам на вакзале ў Кляшчэлях. З ім я ўжо больш не спаткаўся. Калі загрузілі нас у вагоны, я не плакаў і не вельмі перажываў, бо спадзяваўся, што хутка вярнуся. Я ўжо ведаў, што немцы пад Сталінградам былі разбіты і адступаюць на ўсім паўднёвым фронце. Але ехаць у няволю, нават на кароткі час, было вельмі прыкра. Нельга было ўцячы, бо немцы расстралялі б бацькоў і сястру.

Прыпомніў я зборны пункт у Бельску-Падляшскім. Мы ляжалі покатам на падлозе і чакалі медыцынскага агляду. Было б вельмі сумна і цяжка, каб не знайшліся між намі веселуны, якія забаўлялі ўсіх жартоўнымі песнямі, апавяданнямі, анекдотамі, адганялі цяжкія думкі пра будучыню, падтрымоўвалі ўсіх на духу.

Нямецкаму лекару я паказаў рэцэпт і пасведчанне ад лекара, што ў студзені 1942 г. хварэў на запаленне лёгкіх. Ён паставіўся да гэтага крытычна і сказаў: Aber jetzt bist du gesund! (Ды цяпер ты — здаровы). У Беласток вязлі нас у закрытых таварных вагонах па 20-30 чалавек у кожным. Дзверы нашага вагона знадворку былі замкнутыя на засоўку, якую акруцілі яшчэ дротам. Аднак знайшлася шчыліна і ўдалося раскруціць дрот, адсунуць засаўку і адчыніць дзверы. Цягнік імчаўся даволі хутка, а спераду і ззаду эшалона ў кандуктарскіх будках сядзелі немцы з аўтаматамі. Некалькі чалавек пастанавілі ўцякаць. Трэба было хутка сысці на прыступкі вагона, далёка выкінуць чамадан, скочыць і з чыгуначнага насыпу каціцца хутка ўніз. Немцы не адразу заўважылі ўцекачоў, бо толькі пасля чацвёртага пачуліся выстралы. Далей ужо стала рызыкоўна выскокваць, тым больш, што за насыпам цягнулася пустое поле. На бліжэйшай станцыі немцы ўжо больш дакладна замкнулі нашыя дзверы.

У Беластоку я яшчэ паспеў купіць рускую газету, якая выходзіла ў Берліне, дзе даведаўся аб смерці фельдмаршала Паўлюса (што было няпраўдай). З Беластока папалі мы ў Вармдзіт, дзе паводле прафесій падзялілі нас на групы па 30 чалавек. Усім загадалі ісці ў лазню, а адзенне здаць у дэзінфекцыю. Нашую групу павязлі ўжо ў пасажырскіх вагонах у горад Гайльсберг (цяпер Лідзбарк-Вармінскі), з вакзала пагналі нас пяшком у арбайтзамт, і ўжо там пачаўся афіцыйны продаж нявольнікаў. Прыязджалі туды коннымі брычкамі пажылыя немцы, часта са сваімі жонкамі, аглядалі нас і выбіралі. Шукалі моцных, здаровых і высокіх. Калі хтосьці ім спадабаўся, бралі яго да прылаўка, дзе чыноўнік афармляў продаж. Немцы плацілі яму нейкія маркі і адыходзілі з набыткам. Але тут я заўважыў, што немцы пачалі сартаваць нас паводле веравызнанняў. Нават не пыталі нас аб гэтым, у іх усё было ў паперах. У нашай групе ўсе гаварылі і на польскай, і на беларускай мове, а часцей сваім вясковым дыялектам. І не было паміж намі ніякай варожасці. А немцы пачалі нас дзяліць. Усіх католікаў яны лічылі паўнакроўнымі палякамі і кожнаму давалі жоўты значок з літарай „P", які трэба было моцна прышыць да грудзей верхняга адзення, каб з ім хадзіць. Без гэтага значка ён не мог нідзе паказацца, бо меў бы вялікую непрыемнасць у жандараў. Праваслаўных лічылі беларусамі і ім не давалі значкоў.

Мною зацікавіліся трое: мужчына і дзве жанчыны. Спачатку яны аглядалі мяне здалёк, а пасля падышлі і запыталі: Wie alt bist du? [1] Я зразумеў і адказаў: Sechzehn. [2] Яны не паверылі і падвялі мяне да прылаўка, дзе чыноўнік паглядзеў у паперы і пацвердзіў мой узрост. Яны адышлі, некалькі мінут раіліся між сабою, паглядаючы на мяне. Пасля мужчына падышоў да прылаўка, заплаціў, узяў нейкую паперу і сказаў мне, каб я ішоў з імі. Па дарозе да цэнтральнай плошчы горада зайшлі мы ў піўную, дзе яны заказалі сабе і мне цёмнае піва. Яны нешта гутарылі між сабою, ды я не вельмі мог іх зразумець, бо гаварылі яны на нейкім нямецкім дыялекце, з якім я ніколі не стыкаўся. З піўной мы выйшлі на вузкую вуліцу, дзе чакала іх двухконная брычка. Мне загадалі сесці ззаду, і мы адразу ж паехалі. Хутка праехалі горад, які падаўся мне не вельмі цікавым, хаця вуліцы былі чыстыя, а некаторыя дамы прыгожыя. Мы ехалі па асфальтавай шашы абсаджанай з двух бакоў дрэвамі. Быў пачатак вясны. Па вільготных палях блукаў халаднаваты вецер. Мінулі мы мураваныя дамы, пакрытыя чырвонай дахоўкай. Усе дамы былі раскінуты па хутарах. Я не бачыў ні аднаго дома з дрэва ці з саламяным дахам. Мы звярнулі з шашы і заехалі на двор невялікай сядзібы. З левага боку стаяў невысокі мураваны дом, з правага — хлеў, а перад намі малая пунька. З дома выбегла трое дзяцей, ад трох да сямі год, за імі і выйшаў прыгожы мужчына ў нямецкай афіцэрскай форме. Я ўзяў свой чамадан, а маладая жанчына падала мне знак, каб ісці за ёй. Уваходзім праз сенцы ў кухню, а пасля направа, у малы вузкі пакой. За дзвярыма з левага боку ля сцяны — шафа, далей жалезны ложак з пасцеллю, а насупраць, каля акна — маленькі столік з крэслам. Правы бок пакоя быў пусты, з дзвярыма ў суседні пакой. Жанчына тлумачыць мне, што гэта мой ложак, мая шафа і мой пакой, а мыцца я магу побач у кухні пад кранам або ў тазе. Яна выйшла, і я пачаў распакоўвацца. Пасля прыйшоў яе муж, афіцэр, падаў мне руку (што мяне вельмі здзівіла) і прадставіўся: — Ich bin Herman Lipman. Sprechen Sie Deutsch? [3] — запытаў мяне. — Sehr Schlecht, — адказаў я. — Aber ich etwas verstehe wenn sprechen Sie langsam [4].

Я расказаў яму, што да вайны вучыўся ў школе два гады нямецкай мове, але мала размаўляў і таму не маю практыкі.

— Вельмі добра, — сказаў ён, — што вы хоць нешта разумееце, то тут будзеце мець добрую практыку а і хутка навучыцесь гаварыць. Я служу ў Францыі, а цяпер прыехаў у водпуск і праз два дні я выеду назад у Францыю. Тады вы застанецеся тут адзін з маёй жонкай Герліндэ і з маімі дзяцьмі. Я на ўсходзе яшчэ ніколі не быў і не ведаю, як там людзі жывуць.

— А гэты мужчына і жанчына, каторыя нас вязлі? — запытаў я.

— Гэта суседзі, — адказаў ён. — У мяне мала зямлі, ды ёсць дзве каровы, адзін конь і як бачыце, трое дзяцей — дзве дзяўчынкі і адзін хлопчык. Мая жонка адна не дае рады, каб за ўсім даглядаць, і таму прашу вас, каб вы ёй дапамагалі.

І сапраўды, ён хутка ад'ехаў, і я астаўся сам з яго жонкаю і дзяцьмі. Працы хапала, ды не было вельмі цяжка, пакуль не з'явіўся яе дзядзька з просьбаю пазычыць мяне яму на некалькі дзён.

Фраў Герліндэ не вельмі хацела мяне аддаць, бо ў яе таксама было што рабіць, але не магла адмовіць, бо была залежная ад свайго дзядзькі. Яго хутар быў недалёка, метраў з 600. Гэта быў багаты баўэр: ён меў тры пары коней, штук 18 кароў, авечкі, свінні і многа розных сельскагаспадарчых машын.

☞ *Працяг на стар. 8*




*БАРЫС РУСКО*

### КЛІЧ

На парог абмыты празрыстай расою
стань у зелені сочнай.
Птушка-сонца гарэзіць у воблачнай лістоце,
а белыя пальцы варушаць струны ў душы-цемры.
Натолімся крыкам світання-надзеі.

### ПАХ ЛЬСНЕННЯЎ

У ружовую раніцу сочыцца
слодыч сонца.
Чырвань усмешкі малюе
аблічча золаку.
У паху льсненняў расцвітаюць
вялікія вочы.
На досвітку надзеі крокамі квітнення
вымяраюцца пялёсткі шчасця.

### ЛЕТНІ ВЕЧАР

Летні вечар ап'яняе як чырвонае віно.
Косы ценяў паўзуць да скроняў з суцяшэннем.
Сілуэт анёла падаўжаецца і атуляе уяўленне
аж да карэнняў забыцця.
Вячэраем удваіх у варотах сну.

### ТАЙНА СУСТРЭЧЫ

У струменях ночы чакаю полымя слоў.
Гарачы подых топіць камень цішы.
Па скронях стукаюць кропелькі з павекаў
доўгіх як маё знаёмства з імі.
Узор пераменны блакіту бачу праз цемру.
Пакута на прывязі...
У бясконцай ночы світанак мёртвы.

## ЧЫРВОНАЯ ШАПАЧКА

Казка пра Чырвоную Шапачку — адна з найбольш папулярных у свеце. Што прычынілася да таго, што дзеці так любяць яе? Ды і не толькі дзеці; дарослыя складальнікі казачных анталогій амаль у кожную з іх уключаюць гэты твор. У чым сакрэт такой папулярнасці? На маю думку, справа ў тым, што казка мае просты, але эмацыянальна багаты сюжэт: барацьба дабра і зла, у якім пасля кароткачасовай перавагі зла, нарэшце перамагае дабро. Казка гэтая ў пэўнай ступені мае падабенства да высноў рэлігіі (ці антырэлігіі), паводле каторых пасля ўсіх зямных людскіх несправядлівасцяў наступіць Страшны Суд, на якім усё злое будзе асуджана, а добрае — узнагароджана, або добры камунізм расправіцца з дрэнным капіталізмам (ці наадварот). Казка пра Чырвоную Шапачку мае мноства варыянтаў, аднак заўсёды выступае тут добрая, мілая дзяўчынка, якая нясе праз лес кошык з патрэбнай для хворай бабулі ежай. У лесе спатыкае яна злога і хітрага ваўка-інтрыгана, які даведаўшыся аб намерах праўдамоўнай дзяўчынкі, раіць ёй назбіраць ягад і кветак, а сам у тым часе бяжыць у бабуліну хатку, каб нарабіць там усякага зла. Напрыканцы казкі з'яўляецца справядлівы палясоўшчык, які, заглядаючы ў бабуліну хату, выкрывае злачынствы і ўстанаўлівае справядлівасць.

Казка гэтая кароткая па змесце, але вельмі багатая эмацыянальна. Яе можна расказаць у пяць-дзесяць мінут, можна паспрабаваць зрабіць гэта і за больш працяглы час. За такую нялёгкую задачу і ўзяўся беластоцкі Лялечны тэатр, які зрабіў сцэнічную пастаноўку, узяўшы за аснову п'есу Паўэля Поляка. Для яе рэалізацыі наш тэатр запрасіў землякоў аўтара, славакаў Караля Фішэра (рэжысёр), Мар'ю Жылікову (сцэнаграфія) і Норберта Боднара (музыка). Болей чым гадзінная працягласць спектакля размывае густую эмацыянальную афарбоўку казкі. Новаўвядзенні, якімі ўзбагачаецца спектакль, яшчэ ў большай ступені прыцямняюць тое, што ў казцы галоўнае. На беластоцкай сцэне спектакль вядуць акцёры Заборскі і Далінскі. Іх пачатковая манатонная прэзентацыя, якой, здаецца, не быць канца, можа нябляга знеахвоціць нецярплівага гледача. Пачатак мае быць дынамічным, павінен уключыць публіку ў тое, што дзеецца на сцэне; тут жа зусім наадварот. У далейшым акцыя набірае адпаведны тэмп, наступаюць цікавыя падзеі, аднак праз нейкі час адчуваецца апатыя гледачоў, засеяная няўдалым пачаткам.

Адмаўляючыся ад эмацыянальна сутнай экспазіцыі, аўтары пастаноўкі больш увагі адводзяць раскрыццю яе рэалізацыі, паказваюць элементы тэатральнай майстэрні, прыцягваюць гледачоў да актыўнага ўдзелу ў сцэнічных падзеях. Пастаноўшчыкі слушна заключаюць, што такую вядомую казку малыя гледачы ўжо ведаюць, што найбольшыя яе эмоцыі ўжо за імі, і прапануюць супольную гульню. І так, напраклад, гледачы вырашаюць, што Чырвоная Шапачка пакладзе ў свой кошычак; „мае" гледачы вырашылі, што павінны ў ім быць, між іншым, коржыкі, сок, шакалад, лякарствы і... моталодка. Калі кошычак аказаўся зацяжкі, гледачы таксама вырашылі, ад чаго трэба адмовіцца (ад моталодкі, вядома, не адмовіліся; палічылі яе неабходнай для хворай бабулі). Вядучыя спектакль акцёры прабавалі навучыць публіку песенькі, але вынік гэтых намаганняў цяжка назваць паспяховым. Былі і іншыя дыдактычныя элементы, нават даволі цікавыя, напрыклад, дзеці „садзілі" лес, даведваючыся, як ён расце і як паўстае на сцэне. Маглі таксама пабачыць, як поўзаюць смаўжы. Воўк аказаўся не нейкай крыважэрнай бестыяй, але вельмі сімпатычнай „рукавіцай" аднаго з вядучых спектакль акцёраў. Таксама Чырвоная Шапачка не была пакорнай і даверлівай дзяўчынкай, была яна больш падобная да распушчаных балаўнікоў, якія вырастаюць перад шклянымі экранамі ў бетонных мурашніках нашых гарадоў, чымсьці да свайго казачнага крыштальна чыстага арыгінала.

Аўтар, відаць, і пісаў п'есу з думкай, што гледачамі спектакляў будуць менавіта дзеці з рэальных гарадоў нашай часткі свету, таму пэўна і стараўся як мага больш наблізіць яе да нашых рэаліяў. Цікавая задума апраўдала сябе ў большай частцы пастаноўкі. Дзеці малодшага, дашкольнага ўзросту з зацікаўленнем прымалі ўдзел у спектаклі, бо і ён сам быў рэалізаваны з думкай аб іх: простая, сімпатычная дэкарацыя, да таго ж мілагучная музычная абрамоўка стварылі адпаведна інфантыльную атмасферу. Шкада толькі, што рэжысёр не прыдумаў цікавейшага пачатку; каб не гэта, спектакль можна было б палічыць карысным і паспяховым.

**А. ВЯРБІЦКІ**

# НАРЫЎ

☛ *Працяг са стар. 7*

Сам ён паставіўся вельмі непрыемна і груба і да мяне, і да свайго рабочага-француза. Баўэр гэты быў невялікага росту, худы, лысы, са злым поглядам і вельмі скупы, але абедаў і вячэраў разам з намі за адным сталом. Яму даўно мінула пяцьдзесят год, але быў ён яшчэ жвавы і сам працаваў заўзята. У яго доўгі час рабіў ваеннапалонны француз. Ён таксама быў нецікавы, малы, худы, з вялікім тырчачым носам. Мы гутарылі між сабой на ламанай нямецкай мове, якую ён ведаў мала лепш за мяне, бо з немцам гаварыў рэдка. Немец толькі выдаваў яму загады, а гутарыць з ім не хацеў. Нават за абедам немец рэдка адзываўся. Аднойчы немец загадаў мне насячы дроў. І менавіта тады нечакана ўвайшла мне ў далонь невялікая шчэпка. Здавалася мне, што я яе выцягнуў, ды відаць, не зусім, і цяпер у гэтым месцы паявіўся вялікі нарыў. Ужо ўчора мне вельмі балела левая рука, а сёння абавязкова трэба ехаць да лекара. Я пачуў, што фраў Герліндэ ўжо ходзіць па кухні. За акном стала светла. Я паволі ўстаў з ложка, апрануўся, увайшоў на кухню і паказаў фраў маю далонь. Яна скрывілася, быццам гэта ў яе балела рука і сказала: „Цераз дзве гадзіны тут будзе ісці аўтобус у горад і мы паедзем да лекара”. Пасля снедання яна адвяла сваe дзеці да суседа і хутка падрыхтавалася да ад’езду. У дзевяць мы выйшлі на аўтобусны прыпынак. Было холадна, пахмурна, дзьмуў непрыемны халодны вецер. Хутка пад’ехаў аўтобус. Фраў Герліндэ знайшла яшчэ свабоднае месца, а я пайшоў наперад і затрымаўся недалёка шафёра. Сядзелі пераважна жанчыны і некалькі пажылых мужчын, двое з іх — побач са мною. З-пад ілба паглядалі яны на мяне і нешта паціху гаварылі між сабою. Нарэшце адзін з іх не вытрамаў і запытаў мяне: — Wohin fahrst du? 5/ — Nach Heilsberg zum Arzt 6/, — адказаў я спакойна. — Bist du Werwundete? 7/ — ён зноў запытаў мяне. — Nein, ich habe nur die kranke Hand, 8/ — я сказаў яму нехаця. Мне не хацелася з ім гутарыць. І калі ён яшчэ нешта запытаў, я сказаў, што я яго не разумею. Гэта была мая памылка. Ён змяніўся на твары і строга запытаў мяне на ўвесь голас: — Bist du Polak? 9/ Ён не сказаў „Pole”, а слова „Polak” выцадзіў са зняважай. — Nein, — хутка адказала яму за мяне фраў Герліндэ, — er ist nicht Pole, sondern Belorusse. Er ist im Südostpreussen geboren. 10/

Паміж пасажырамі пачаліся жывыя і крыклівыя спрэчкі, якіх я ўжо не мог зразумець. Аўтобус уехаў ужо ў горад і затрымаўся на цэнтральнай плошчы недалёка ад помніка. Усе выйшлі, коса на мяне паглядаючы, і мы з фраў Герліндэ пайшлі да лекара. Ён прыняў нас ветліва. Ён гаварыў вельмі добра папольску. Лекар хутка разрэзаў нарыў на далоні, заліў спіртам і ёдам, прылажыў нейкую мазь і моцна забінтаваў рану. Пасля даў мне 7 дзён звальнення ад працы і сказаў аб гэтым маёй гаспадыні. Яна нічога не адказала, але не была задаволена. Калі мы выходзілі, ён сказаў мне, каб я за тыдзень прыйшоў да яго з ранай. Ад лекара мы пайшлі на аўтобусны прыпынак, дзе стаяў той самы аўтобус, якім мы сюды прыехалі. Калі мы падышлі да аўтобуса, шафёр загарадзіў мне дарогу да дзвярэй. — Nur die Frau kann mit diesem Autobus fahren! 11/ — сказаў мне са злоснай грымасай на твары. Фраў пачала яму даказываць, што не можа пакінуць тут мяне аднаго, бо я нядаўна сюды прыехаў і не ведаю дарогі назад, і апрача таго — я хворы. Але шафёр быў няўмольны: ён не можа ўпусціць мяне ў аўтобус, бо за гэта страціць працу.

— Ёсць такі закон, што паляк, — гаварыў ён, — не можа ехаць у аўтобусе разам з немцамі. Гаспадыня расплакалася, даказваючы што я не паляк, бо не нашу значка „P” і што мне напэўна можна ехаць разам з немцамі. Мне было непрыемна і адначасова смешна. Я не адчуваў ніякага задавальнення ехаць разам з немцамі і ахвотна пайшоў бы пяшком, калі б ведаў дарогу. Я стаяў насупраць шафёра і з усмешкай глядзеў яму проста ў вочы. У яго ад злосці дрыжалі сківіцы. Навокал нас сабраліся пасажыры- немцы. Адны маўчалі, прыглядаючыся, другія заступаліся за шафёра. Толькі дзве жанчыны падтрымлівалі фраў Герліндэ, гаворачы, што нельга бяздушна падыходзіць да закону, бо ён тады прыносіць крыўду самім немцам. Ды шафёр іх і слухаць не хацеў. Падчас спрэчкі падышоў тоўсты жандар і ўключыўся ў размову. Ён спакойна выслухаў фраў, якая заплакала, агледзеў мой аусвайс і сказаў шафёру, каб ён мяне забраў з сабою.

— Калі так, — адказаў шафёр, — прашу даць мне пасведчанне на паперы, што я магу яго ўзяць з сабою.

— Ніякага пасведчання! Тут маеш многа сведкаў, што я загадаў табе забраць яго.

Аднак шафёр не паслухаўся жандара.

— Без паперы я яго не вазьму — сказаў ён цвёрда. Жандар папрасіў пачакаць, адышоў і хутка вярнуўся са сваім шэфам, які стаў разглядаць мае дакументы.

— Ты кепска разбіраешся ў законах, — сказаў шафёру шэф жандармерыі. — Калі ён не носіць значка (ён паказаў на мяне), то ён мае права ехаць на гэтым аўтобусе. Калі ў яго няма значка, адкуль ты можаш ведаць, што ён не немец.

— Калі б я яго не ведаў, я б яго забраў. Але мне звярнулі ўвагу самі немцы, пасажыры, што ён не немец і цяпер я не магу яго забраць без вашага пасведчання, — адказаў шафёр.

— Добра, — сказаў шэф жандармерыі, — дастанеш пасведчанне, ды я цябе добра запамятаю.

Шэф жандармерыі забраў мяне ў сваю канцылярыю, якая была недалёка ад прыпынка. Там ён сказаў мне сесці, а сам, узяўшы мае дакументы, на пішучай машынцы напісаў пасведчанне, падпісаў яго і прылажыў штамп. Даючы мне паперу, сказаў: „Бяры і едзь!” Я падышоў да шафёра і ўручыў яму пасведчанне. Ён, чырвоны ад злосці, спакойна яе прачытаў, паволі паклаў у сваю торбу і паказаў мне месца дзе я павінен сесці. Я сядзеў сам адзін. Мая гаспадыня была шчаслівая, што ўдалося забраць мяне ў аўтобус.

Я аглядаў пасажыраў і думаў: як фашызм у такі кароткі час мог затуманіць мазгі ўсім гэтым старым людзям? Людзі гэтыя сапраўды паверылі, што яны — вышэйшая раса людзей, і адчуваюць крыўду, калі нехта з іншай нацыі будзе ехаць з імі ў адным аўтобусе. Калі яны пачалі дзяліць народы на лепшыя і горшыя, то забыталіся так, што не ведаюць, хто з іх лепшы, а хто горшы. Гэты шавінізм, як нарыў, выскачыў у іх на душы і заглушыў усякае пачуццё маралі, сэнсу і чалавечнасці. Ён ўжо не дазваляе іх розуму лагічна разважаць, і цяпер толькі вострым скальпелем вайны можа іх ад гэтага вылечыць. Калі я выходзіў з аўтобуса, памалу, з агіднай усмешкай, паглядзеў на ўсіх, каб зразумелі, як я імі пагарджаю. Ды не ведаю, ці яны зразумелі гэта...

* * *

## ЭПІЛОГ

Далонь у мяне гаілася доўга. Фраў Герліндэ далі на маё месца нейкага ваеннапалоннага француза, які быў на дзесяць гадоў старэйшы за мяне, і тая адвяла мяне назад у арбайтзамт у Гайльзбергу. Я чакаў, што мяне адпусцяць дамоў, аднак знайшоўся другі баўэр, якому я спадабаўся. Ён адкупіў мяне і забраў да сябе. Гэта быў Ёзэф Шпанэнкрэбс з вёскі Помэйрэн, кіламетраў 5 ад папярэдняй вёскі Восэндэн, дзе жыла фраў Ліпман. У Шпанэнкрэбса я амаль тры тыдні лячыў хворую далонь, а пасля працаваў у яго да самага вызвалення, да 5 лютага 1945 г.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

---------------

1/ Колькі табе гадоў?
2/ Шаснаццаць.
3/ Я — Герман Ліпман. Гаворыце вы па-нямецку?
4/ Вельмі кепска, але я нямнога разумею, калі гаворыце паволна.
5/ Куды едзеш?
6/ У Гайльзберг да лекара.
7/ Ці ты ранены?
8/ Не, у мяне толькі хворая рука.
9/ Ці ты паляк?
10/ Не, ён не паляк, толькі беларус, ён нарадзіўся ў паўднева-ўсходняй Прусії
11/ Толькі фраў можа ехаць гэтым аўтобусам.




*МІРА ЛУКША*

У белую нядзелю
паедзем у свет
на срэбнай кабылцы
у вуздзечцы з зорак.
Захмеленым ранкам
у вечнай дуброве
нап’емся вадзіцы
з крыніцы празрыстай
з жывою вадою.
Абмыем далоні
і чорныя вочы,
дамо піць кабылцы,
і ў пырсках халодных
адыдзем у свята,
святыя, як дзень.

* * *

не дзялю сябе
ні з кім я
з кім я

* * *

у гэтым доме не памёр ніхто
толькі кожную ноч
цямней на яшчэ адну
ноч

# ЛІСТ НЕВУЧОНАГА ДА ВУЧОНАГА

**Паважаны сп. Д. Шатыловіч!**

Мяне вельмі здзівіла ў Вашай адгалосцы з 17 н-ра „Нівы” тое, што Вы карыстаецеся выключна польскай Біблій. Ці ж Вам беларуская або руская Біблія не па душы? Яны дакладнейшыя за польскую з 1980 года, якая здалёк пахне мадэрнізмам. Я не перакладаў згаданы фрагмент (Мацв. 5, 22) з рускай мовы, а толькі ўзяў з беларускай і арыгінала:

рака — пусты чалавек, чурбан,
морэ — безумный, шалёны, błazen (w Biblii polskiej, tłumaczenie Wójka).

Вось чаму ў старагрэчаскім Евангеллі ад Мацвея (5, 22) няма слова „бязбожнік”, няма яго таксама і ў перакладзе Вуйка — там ёсць словы „błazen”.

Адносна маіх сварак з мясцовай бюракратыяй — быў гэта для мяне нейкі гонар і палёгка на душы. У мясцовай ПАРП простыя яе члены былі добрымі людзьмі, але іх голасу, так як і майго, ніхто не слухаў. Правіла кліка, і таму я адышоў без сварак. Хіба больш гонар адысці, чым сварыцца.

А мае лісты да В. Петручука — гэта толькі адказы на яго лісты да мяне.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**




**Частка XLII**

# БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Сёння прагну прадставіць асобу, якая вельмі цікава выказалася на тэму сістэмных перамен у Беларусі. Асоба гэта, як высветлілася, паходзіць з калгаса, што пад Нясвіжам. Калгас той узнік, між іншым, на фундаменце такіх вёсак, як Вялікая Ліпа і Высокая Ліпа. (Тая самая Вялікая Ліпа, з якой паходзіць будаўнічы Беларускага музея ў Гайнаўцы Кастусь Майсеня). З жанчынай, аб якой ідзе гутарка, пазнаёміўся я ў цягніку па дарозе ў Брэст, калі ехаў на канферэнцыю. Здзівіла яна мяне тым, што ўвайшоўшы ў купэ і пабачыўшы, што едуць у ім рускія жанчыны з Масквы пачала з імі размаўляць не па- руску, а выключна на прыгожай беларускай мове. Зразумела, што мяне гэта надта здзівіла. Я пагаварыў з ёю, і вось галоўныя яе выказванні:

„Я працую тэхнікам у калгасе пад Нясвіжам. У Вялікай Ліпе вельмі многа Майсеняў. Пытаецё мяне, чаму я размаўляю па-беларуску? Таму, што гэта мая родная мова, што люблю яе болей, чым якую-небудзь іншую, што паслугоўваюся ёю дома і што сваіх дзяцей таксама навучыла размаўляць па-беларуску. Наш калгас быў вельмі багаты, мы дзесяткам калгасаў прадавалі заплодненыя цёлкі, а ўраджай у нас па пяцьдзесят цэнтнераў з гектара зернавых. Калгас кожны год будаваў для сялянаў па пятнаццаць катэджаў. Вось, напрыклад, я была на экскурсіях ва ўсіх краінах народнай дэмакратыі, а таксама ў Фінляндыі і Індыі. Цяпер усё гэта закончылася. Ужо не будуем, бо няма грошай, цёлак не прадаем, бо няма купцоў. Усе калгасы маюць вялікую запазыку, у тым ліку і наш. Ідзем да банкруцтва. Што будзе, сама не ведаю. Людзі зямлі браць не хочуць, бо адвыклі працаваць на індывідуальнай гаспадарцы, а да таго ж няма адпаведных машын або коней.

І ўсё-такі, я цешуся, што Беларусь стала незалежнай дзяржавай, у якой памаленьку адроджваецца нацыянальнае школьніцтва, беларуская мова. Я вельмі сачу за тым, што дзеецца ў краіне. Мне асабіста падабаецца Шушкевіч і не падабаецца Пазьняк. Не падабаюцца таксама крайнія камуністы, якія зноў хацелі б зрабіць Беларусь васальнай дзяржавай у адносінах да Расеі. А гэта мне не адпавядае. Прагну, каб людзі сябе адчувалі свабодна і каб маглі свабодна ездзіць за мяжу куды хочуць і калі хочуць. Калі будуць выбары, дык не буду галасаваць ані на камуністаў, ані на Пазьняка. Загаласую на Шушкевіча. Вельмі баюся вайсковага саюза з Расеяй. Чаму? Таму, што мой сын у войску, і калі Беларусь прыступіць да вайсковага саюза, дык яго ў любы момант могуць пасдаць у нейкі новы Афганістан, Карабах ці ў Абхазію. А навошта гэта нашым хлопцам? Няхай яны нясуць службу на сваёй зямлі.

У нас змены былі неабходныя, аднак трэба гэтыя змены кантраляваць, бо калі не будзе кантролю, усё пойдзе так як прапануе Пазьняк, бо ўсе калгасы разваляцца дарэшты і ўся краіна астанецца без хлеба. І станецца гэта ўжо праз некалькі гадоў. Па-мойму, дык усё павінна праводзіцца рацыянальна. Трэба адкідаць тое, што тармозіць развіццё і абмяжоўвае людзей, а пакінуць тое, што добрае. Самі вясковыя людзі ведаюць найлепш, як ім трэба жыць, і няхай яны, а не высокапастаўленыя чыноўнікі, вырашаюць гэту справу!

Найбольш я баюся за лёс сваіх і чужых дзяцей. Баюся, што будуць яны пазбаўлены бясплатнай асветы і бясплатнага лячэння, і гэта будзе бяда.

Вядома, што ў заходнееўрапейскіх краінах людзі жывуць лепш, за нас, але ж мы не збудуем такога капіталізму як у Германіі ці Фінляндыі. Мы — славяне, і не зробім таго, што зробяць нейкія там англічане ці шведы.

Ну, а тое, што Беларусь атрымала незалежнасць, дык цешыць маё беларускае сэрца”.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# Зорка

## Старонка для дзяцей

### ДАРАГАЯ "ЗОРКА"!

Мы вучымся ў школе, што ў вёсцы Новаберазова. Ходзім у чацвёрты і пяты клас. Жывем у вёсках: Дубічы-Асочныя, Хітра, Новаберазова і Барок. Беларускай мовы вучыць нас Яланта Грыгарук. Любім вучыцца і займацца спортам. У "Зорцы" мы найбольш ахвотна чытаем "Прыгоды мышкі Пік-Пік". Добра было б, каб часцей у "Зорцы" паяўляўся "Вясёлы куточак". А мы Табе, "Зорка", пастараемся напісаць яшчэ раз.

**Ася, Эля, Эва, Дарота, Цэліна, Мірка, Аня, Бася, Адам, Мацек і Мірэк**

### ЛІК ЗА ЛІКАМ

- Дай мне адзін яблык, і ў мяне тады будзе ў два разы больш, чым у цябе, - сказаў адзін хлопчык другому.

- Гэта несправядліва. Лепш ты дай мне адзін яблык, тады ў нас будзе пароўну, - сказаў яго сябар.

Так яны і зрабілі, як сказаў другі хлопчык. Колькі ў кожнага хлопчыка было яблыкаў?

* * *

У мяне сясцёр і братоў пароўну. А ў маёй сястры ў два разы менш сясцёр, чым братоў. Колькі нас усіх?

### ПРЫМАЎКІ

У травень будзь мужык управен.

Прыйшоў май — і пад кустом рай.

Май халодны — не будзеш галодны.

Май дажджлівы — год урадлівы.

Не сей пшаніцу раней дубовага ліста, бо ў маі два халады жывуць: калі чаромха расцвітае і калі дуб лісток пускае.

*Дзяўчынка Мартынка з Міклашэва.* **Фота М. Лукшы**

### БЫХАЎ

На месцы сённяшняга горада некалі было невялічкае паселішча, якое ўзнікла ў свой час на правым беразе Дняпра. Жыхары займаліся земляробствам і рыбнай лоўляй, з гэтых промыслаў і жылі. Можа, і назвы не мела першапачатковае паселішча, бо людзей, відаць, гэта мала хвалявала. Яны працавалі сабе і задумваліся над больш важнымі пытаннямі. Добрая гэта была мясціна: прыгожая, урадлівая, ажыўлены водны шлях „з варагаў у грэкі" праходзіў побач. Купцы з самых розных краін прапаноўвалі ім свае тавары. Але ж і войны, і варожыя нашэсці даволі часта вогненнаю, знішчальнаю хваляю пракочваліся па наваколлях. Пасля адной такой бязлітаснай бітвы на беразе Дняпра паселішча гэтае атрымала сваю назву.

Аднекуль здалёку з'явіліся нябачаныя раней ворагі, нікога яны не шкадавалі. Слабых, параненых, хворых дабівалі або спальвалі, а прыгожых жанчын, дзяцей ды таленавітых мясцовых майстроў забіралі ў палон. Толькі мала хто з мужчын трапляў у рукі ворага жывым. Храбра біліся яны і не думалі пра ўласнае жыццё. Многія мястэчкі і гарады былі вынішчаны няпрошанымі гасцямі, шмат крыві пралілося. Вырашылі мясцовыя жыхары аб'яднацца са сваімі суседзямі і даць адпор прыяцелю. Сабралі дружыну, узброіліся, развіталіся са сваімі роднымі і выступілі насустрач ворагу, але недалёка прайшлі, бо тыя ўжо праз Дняпро пераправіліся і рыхтаваліся нечакана напасці. Ды на гэты раз праваліласа іхняя задума. Жорсткая гэта была бойка! Дружыну ўзначальваў тутэйшы князь, а ваяводаю ў яго быў Быхавец — рамеснік, якога абралі жыхары. Вось хто асабліва мужна змагаўся! Ворагі нават імя ягонае зведалі і са страхам вымаўлялі:

— Быхаў-хан! Быхаў-хан!

Нарэшце не вытрымалі прышэльцы і пабеглі, але мала хто ўратаваўся, бо вірлівы Дняпро стаў для іх апошнім прытулкам. Пад канец сечы загінуў і Быхавец-ваявода. Яго і ўсіх забітых дружыннікаў пахавалі ў паселішчы на беразе ракі. Спачатку яно называлася Быхавай магілай, а потым — Быхавам.

**АЛЯКСЕЙ НЕНАДАВЕЦ**

# СМЕЛЫ ВАСЬКА

*Быль*

Цёплы летні дзянёк. На небе ні хмурынкі. Цішыня. Нават лёгкі ветрык-сухавей дыхае сяды-тады ды зноў надоўга задрэмле ў бліжэйшым гаі.

На зялёнай лугавіне каля дачнага доміка пасвіцца чародка белых курэй бабкі Ганны. Яны спакойна шпацыруюць узад і ўперад, вышукваючы розных кузурак ды толькі ім адным вядомую смачную траву. Іх ніхто не пасвіць. Хіба што кот Васька. Ён круціцца тут недалёка, каля гаю, вынюхваючы мышыныя норкі.

Бабка Ганна корпаецца на агародзе. Дзед яшчэ зранку сышоў рыбачыць.

Раптам, адкуль ні вазьміся, каменем зваліўся на лугавіну чорны вялікі каршун. Схапіў белую чубатку, што першая трапіла ў кіпцюры, і рвануўся ўгору. Астатнія куры з трывожным крыкам шуганулі да доміка.

„Гвалт, ратуйце!" — лёгка разабрала бабка Ганна курыную мову.

„Ці не каршун на іх напаў?" — глянула яна ў неба.

Палічыла курэй: адной не хапае! Ды самай жа лепшай нясушкі. Яна ж сёння яшчэ не знеслася!

Не першы раз гэты каршун жывіцца тут, каля яе дачы. Нядаўна апошніх дзедавых галубоў са свету звёў.

І бабка Ганна кінулася шукаць курыцу.

Тым часам каршун разняў у паветры кіпцюры — курыца пляснулася вобземлю і разбілася. Каршун нырнуў за ёю, адцягнуў у зараснік і сабраўся ўжо балявацъ, як бачыць — перад ім нібы з-пад зямлі вырас рыжы кот Васька...

Кот Васька, як і ўсе яго сваякі, вядома ж, палюе не толькі на мышэй. Любая птушка для яго таксама нядрэнны ласунак. Не цікавілі яго з птушынага царства як ласунак хіба адны бабчыны куры. Прывык ён да іх і лічыў за лепшых сваіх прыяцелек. Дружба ў іх была моцная і непарушная. Ну, а каршун — справа іншая. І ў ката Ваські адразу ж загарэліся вочы і высклчылі з мяккіх лап вострыя кіпцюры.

Каршун падумаў, што кот збіраецца адабраць у яго здабычу. Ён пакінуў курыцу і схапіўся з катом. З гарачкі наваг падняў яго над кустамі. Ды не ўтрымаў: кот быў цяжкі.

Бойка распачалася не на жыццё, а на смерць. Каршун усё сіліўся яшчэ раз падняць свайго ворага ў паветра і шпурнуць з вышыні, каб забіць. А кот Васька ўпарта дабіраўся да каршуновага гарляка.

Калі бабка Ганна прыбегла да месца адчайнай бойкі, Васька ўжо даў рады драпежніку: той ляжаў распластаўшыся і ледзь варушыў крыламі.

— Ну і малайчына ж ты, Васька! — пахваліла бабуля свайго рыжага ката. — Такі ты ў мяне смелы. Так яму, разбойніку, і трэба!

**АЛЕСЬ ЯКІМОВІЧ**

*МІРА ЛУКША*

### БАБЁР НІКІФОР

Збудаваў Нікіфор на рацэ сялібу.
Колькі дрэў сцерабіў
На сцены і прызбу —
І вярбу, і лазу,
І асіну,
І бярозу з дзеразой,
І альшыну.

Запрасіў Нікіфор хату пaглядзеці,
І тартоў нарабіў —
Пачастунак дзецям:
І з вярбы, і з лазы,
І з асіны,
І з бярозы, з дзеразы,
І з альшыны.

Угасціў Нікіфор белавежскіх дзетак,
І звяроў накарміў
Пачастункам гэтым:
І вярбой, і лазой,
І асінай,
І бярозай, дзеразой,
І альшынай.

Частаваў Нікіфор ката-ягамосця.
Коцік млеў, але еў,
Запрашаў у госці
На вярбу, на лазу,
На асіну,
На бярозу, дзеразу,
На альшыну...

### РАГУЛЯ БЫСЮЛЯ

Ураджай сабраны з поля,
Выкапалі бульбу ўсе
І апаў лісток з тапалі...
Пачынае сыпаць снег.

Рагуля Бысюля дадому прыйшла,
І сумную пысу ў катух заграбла...

Не ісці на луг зялёны,
Не прабегчы па траве...
Стала ціха, стала цёмна
У Бысюліным хляве.

Адна радасць у кароўкі:
У зімовы белы дзень
На вяселле да сяброўкі
Сабіраюцца усе.

Рагуля Бысюля у госці ідзе,
Сяннік духмяны Мурkіце нясе!

*АНАТОЛЬ ВОЛКАЎ*

### ГАЛОЎНЫЯ ГЕРОІ

Жылі някепска між сабою
Худы Карась і тлусты Карп.
Яны агульны мелі скарб,
Іх не разліць было вадою.
Але, як водзіцца заўсёды
Паміж сабой-таварышоў,
Адзін паверху з іх ішоў,
Ну, а другі — заўсёды сподам.
У іх сяброўстве верхаводзіў
Дужэйшы Карп над Карасём.
Карась спускаў яму ўсё,
Хоць Карп да слёз яго даводзіў:
„Цябе і людзі смецццем лічаць.
Хіба ж ты рыба? — гудзеў ён. —
Ты нават гэты вадаём
Псуеш усім сваім аблічам.
Табе як толькі не саромна?!" —
Ды што там! Тое з Карася,
Як быццам бы вада з гуся.
Быў рыбінай ён вельмі скромнай.
Бывала, Карпу ён даказваў:
„Ты нада мной не надта смейся,
Людзям і вартае ўсё смецце", —
І на гарчшок на дне паказваў.
А ўсё ж героі нашай байкі
Пасля шмат часу і вады
У сваім сяброўстве, ды бяды,
Так не паслабілі ні гайкі.
„Глядзі, якое ў мяне цела! —
Аднойчы Карп сябе хваліў,
Тым часам хтосьці нешта ліў
У сажалку. У той сцямнела.
І раптам Карп перавярнуўся —
Жывот угору і ўсплыў.
Карась ля дна ў час той быў,
Ад страху і не варухнуўся.

Прыйшла пара і да маралі.
У байцы кару Карп панёс.
Такі яго у ёй быў лёс,
А мы што гэтым атрымалі?
Тут быць павінна падаплёка.
Быў зліты ў сажалку мазут.
Хапала іншых тут атрут,
Як і людзей непадалёку.
Такая вось узнікла справа:
Ёсць быццам розум у людзей,
Ды як і ў рыб няма надзей,
Што гэта страва
Абміне іх.

# ВЫ, БАБУЛІ, ДЗЯДУЛІ І ЎНУКІ (2)

Бабуля! Здаецца, само слова вылучае дабро і святло, ад яго вее цяплом і ўтульнасцю. Мір і спакой часцей за ўсё ўносяць бабулі ў маладую сям'ю. Аднак ці лёгка быць бабуляй у наш час? Жанчына, яшчэ не старая, але ўжо бабуля, расказвае:

— У мяне расце выдатны ўнук, а вось адносіны з дачкой з кожным днём псуюцца. Дачка лічыць, што я павінна кінуць працу і прысвячаць сябе маленькаму ўнуку. Але я люблю сваю работу і не збіраюся кідаць яе, мне таксама хочацца іншы раз схадзіць у кіно, у госці. Я з ахвотай магу пасядзець з унукам у выхадны дзень. Але чаму я павінна поўнасцю адмовіцца ад сваіх інтарэсаў?

Не так лёгка ўсвядоміць сябе бабуляй, калі табе няма яшчэ і пяцідзесяці гадоў. Да шматлікіх жаночых роляў — жонкі, маці, гаспадыні, працаўніцы неўзабаве прыбаўляецца яшчэ адна — бабуля. Адны прымаюць новае „званне" з захапленнем, іншыя — не надта радасна, бо слова „бабуля" гучыць як напамінак аб тым, што маладосць прайшла.

Маладая маці ўся ў клопатах аб дзіцяці, муж таксама патрабуе ўвагі. І як паспець усё зрабіць? Столькі спраў па дому, а бабулі свядома не хочуць аблягчыць ім цяжар, прыходзяць толькі ў госці. Нехта нават назваў такіх бабуль „параднымі".

Так, не хочуць сучасныя бабулі замыкацца ў межах чужога жыцця, у іх жа ёсць сваё шырокае кола інтарэсаў, больш шырокае, чым у патрыярхальнай „бабулі ў хустачцы". Бабулі цяпер умеюць жыць самастойна, незалежна. Ды і выглядаюць яны інакш. Часам не заўсёды можна вызначыць: ці бабуля маладая ідзе з дзіцём, ці мама ва ўзросце. Сучасная бабуля шмат ведае і ўмее, поўная энергіі і творчых планаў, жыве паўнацэнным духоўным жыццём, старанна сочыць за сваім знешнім выглядам. Як правіла, большасць з іх працуе. Натуральна, што яны не могуць удзяліць унукам столькі ўвагі, колькі яны хацелі б. Іншая справа, калі бабуля — пенсіянерка. Але, напрыклад, па даных І. Карымавай з г. Брэста, з дзесяці апытаных ёй бабуль толькі дзве прысвяцілі сябе выхаванню ўнукаў. Астатнія рашылі працаваць, каб дапамагаць іх бацькам матэрыяльна.

І ўсё-такі не заўсёды адны толькі аб'ектыўныя прычыны прымушаюць бабуль ухіляцца ад выхавання ўнукаў. Каб выхоўваць іх, патрэбен асаблівы бабулін талент. Патрэбны шчырае жаданне, сапраўдная любоў, сілы, нарэшце.

Чаму ж бабулі не хочуць памагаць выхоўваць унукаў? Часта даводзіцца чуць, што з бабуляй не лічацца, прывыкаюць бачыць у ёй не добраахвотнага памочніка, а ледзь не чалавека, які знаходзіцца на абавязковай службе ў сям'і.

Пажылая жанчына піша: „Два гады назад я пайшла на пенсію. Думала, шчыра кажучы, яшчэ папрацаваць — сілы ёсць. Але дачка вельмі ўжо прасіла: „Дапамажы нам, мама!" Я пераехала да дачкі. І трапіла ў вялікую залежнасць. Раней яны лічыліся са мной, прыслухоўваліся. А зараз усё часцей звяртаюцца да мяне ў загадным парадку: "Зрабі тое. Зрабі гэтае". Надумаюць вечарам ісці куды — ніколі не пацікавяцца, можа я для сябе штонебудзь запланавала, быццам маё жыццё наогул ужо нішто".

Бабуля хацела як лепей, таму і пераехала да дачкі. А можа, не трэба было ёй спяшацца? Падумаць спачатку, што пацягне за сабой новая сітуацыя. Уявіць, хто будзе ў доме гаспадыня. Напэўна, дачка захоча ёй стаць, але ці гатова бабуля ўспрыняць яе ў гэтай ролі?

Канфлікты паміж маладымі і старэйшымі працякаюць менш балюча і хутчэй пераадольваюцца, калі малодшыя ўсведамляюць, якія пачуцці перажываюць старэйшыя, якія псіхалагічныя змены адбываюцца ў іх, і стараюцца першымі пайсці на ўступкі. Многае тут залежыць не толькі ад псіхалагічных асаблівасцей усіх членаў сям'і, але і ад іх маральных установак.

Калі вы навучыцеся клапаціцца аб сваіх бацьках, то не толькі самі станеце чулымі, сардэчнымі, гуманнымі, але ў будучым і вашы дзеці, гледзячы на вас, будуць праяўляць такую ж сардэчнасць і да старэйшых людзей, і да вас саміх.

*(Працяг у наступным нумары)*

**В. БАЛЦЭВІЧ,**
**Л. ГАРБАЦЕНКАВА**



- Якая розніца паміж электрычнасцю і маланкай? - пытаецца першакласнік Вадзік у старэйшага брата, трэцякласніка Віці.
- Думаю, розніца тая, што за электрычнасць трэба плаціць, а маланка свеціць бясплатна.

* * *

Хлопчык есць хлеб і кажа маці:
- Адгадай, мама, што застанецца, калі я з'ем увесь хлеб?
- Нічога не застанецца.
- Няпраўда! Крошкі!

* * *

- Скажы, бабуля, гэта праўда, што на Месяцы жывуць людзі? - пытаецца малы Слаўка.
- Магчыма, - адказвае бабуля.
- А куды ж яны хаваюцца, калі Месяц робіцца вузенькім?.

* * *

Вечарам тата праяўляе фотастужку.
- Што такое?! На ёй нічога няма!
Сын, які сядзіць побач, заўважае:
- А я яшчэ раніцою праглядаў гэтую стужку і таксама нічога не ўбачыў.

* * *

- Ведаеш слова, у якім некалькі разоў паўтараецца адзін і той жа галосны гук? - пытаецца Юрась у малодшага брата.
- Го-о-о-о-о-о-о-о-о-о-о-о-о-о-л! - чуецца ў адказ.

* * *

- Які твой любімы музычны інструмент? - пытаецца настаўніца спеваў у вучня.
- Магнітафон...

* * *

Настаўнік: - Хто адкажа на маё пытанне, адразу ж стаўлю пяцёрку! Колькі валасоў на галаве ў чалавека?
Вучань: - Пятнаццаць тысяч!
Настаўнік: - Адкуль гэта ведаеш?
Вучань: - Гэта другое пытанне.

* * *

Матуля кажа дачцэ:
- Ідзі пазаймайся з сястрой!
- А што мне з ёю займацца? Я ж геаграфію вывучыла!

* * *

Пяцігадовы Саша не можа вымаўляць гук "р". Сястра Вані навучае яго:
- Скажы "рыба".
- Шчупак, - смяецца малы.

* * *

Настаўнік: - Назаві чатыры асноўныя элементы прыроды.
Вучань: - Зямля. Паветра. Агонь...
Настаўнік: - А яшчэ? Не ведаеш? Успомні, чым ты мыеш рукі перад абедам.
Вучань: - Успомніў! Яшчэ - мыла!

* * *

- Тата, калі я вырасту, буду палярнікам, - заявіў Петрык.
- Вельмі добра, сынок, - усміхнуўся бацька.
- Але я зараз хачу рыхтавацца на палярніка.
- Гэта як жа?
- А ты штодня купляй мне марожанае, каб я прызвычаіўся да холаду.

**(Б.Б.)**

*АНАТОЛЬ КЛЫШКА*

## ЗАГАДКІ

Шэрае сукно
лезе ў акно.

* * *

Ну і пабудоўку збіў дрывасек:
чатыры слупы, ніводнай сцяны,
а на даху сядзіць чалавек.

* * *

Што за яркія астры, — люба глянуць: толькі ўночы цвітуць, а ўдзень — вянуць.

## НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Над вадою белаватыя воблакі, якія хутка знікаюць пры ўзыходзе сонца, — да яснага надвор'я.

Рыба выскоквае з вады і над вадою ловіць машкару — перад дажджом.

Вароны ў небе гуляюць — да спёкі.

Калі з'явіліся адразу дзве ці нават тры вясёлкі, асабліва яркія, — дождж будзе зацяжны.




*У якім посудзе знаходзяцца напоі?*

**ВАСІЛЬ ЖУКОВІЧ**

## ЗАГАДКІ

Ніколі не сядзіць.
Не можа сам хадзіць,
але па полі ходзіць,
калі тры мальцы водзяць.

* * *

Караблік гарачы
разгладжвае хвалі.
Як ён называецца?
Вы адгадалі?

* * *

Цыбаты,
гарбаты,
схаваная лапка,
няма галавы,
а ёсць толькі шапка.
А ў шапцы — ласунак,
табе пачастунак.

* * *

Кажуць, я іду,
не іду, а падаю.
На вясне ўпаду —
восенню абрадую.

* * *

І ўдзень ішоў ён
і ўначы,
а як прыйшла пара,
не ўстаючы,
сышоў з двара.

*(снег, дождж, даспелы сланечнік, прас, аловак)*

З вучнёўскай творчасці

## СТАРОНКА РОДНАЯ

Старонка родная,
Зямелька мая!
Мне песні спявае
Дуброва старая.

* * *

Старонка вітае пошумам лясоў
І перазвонам дубоў.

## БЕЛАРУСКАЯ КРАІНА

Ты — краіна залатой пшаніцы.
Твая мова — мова крыніцы.
Твая кроў — праліта.
Табе не быць забытай.

**ЮРКА БУЙНЮК,**
**V клас**
**Малінніікі**

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# КРОП ЛЕЧЫЦЬ СТРАЎНІК

Кроп садовы (*Anethum graveolens* L.) — аднагадовая расліна, якая расце ў натуральным стане на Бліжнім Усходзе, Каўказе, а таксама ў краінах міжземнаморскай зоны. Расліна гэтая вырошчваецца ў многіх краінах у якасці кухоннай прыправы. У Польшчы расце вельмі добра. Часамі дзічэе.

Кроп садовы характарызуецца прамым разгалінаваным сцяблом, вышыня яго да 1 метра. Лісце цёмназялёнае, часткова ніткаватае, без валосся. Кветкі жоўтыя, сабраныя ў парасоны на канцы сцябла. Насенне — даўжынёю 3-5 мм. Уся расліна вельмі характэрна пахне.

У якасці прыправы выкарыстоўваюць свежую зеляніну садовага кропу, а ў лячэбных мэтах збіраюць у жніўні спелае насенне кропу, сушаць у прадуўным месцы і малоцяць. Лячэбнай сыравінай з'яўляецца насенне кропу садовага — *Fructus Anethi*.

Прэпараты з насення кропу садовага прымяняюць перш за ўсё пры парушэнні функцыянавання страўніка. Стымулюючы выдзяленне страўнікавага соку, яны дапамагаюць засваенню ежы і, акрамя таго, тармозяць развіццё мікраарганізмаў у кішках. Гэтыя прэпараты з'яўляюцца бяспечным ветрагонным сродкам і могуць падавацца нават немаўлятам. Рэкамендуюць іх маладзі і пажылым людзям пры лагодных парушэннях працы страўніка.

У некаторых асоб прэпараты кропу нязначна павялічваюць колькасць выдзяляемай мачы. Стымулююць таксама функцыянаванне малочных залозаў у жанчын, якія кормяць немаўлят. Аднак жа, пранікаючы яны ў малако маці і выклікаюць слабое ветрагоннае ўздзеянне на немаўлят.

Прэпараты з кропу садовага, калі прымяняюць іх у пададзеных ніжэй дозах, не выклікаюць ніякага шкоднага ўплыву на здароўе чалавека.

### НАПАР ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Раздробніць 1/3 - 1/2 лыжкі насення кропу садовага і заліць 1 шклянкай кіпячай вады. Напарваць пад покрыўкай 15-20 мінут. Зняць з агню, даць яшчэ пастаяць 10 мінут, тады працадзіць. Дзецям даваць піць па 1-3 лыжкі (у залежнасці ад узросту) 2-3 разы ў дзень непасрэдна пасля яды пры парушэннях працы страўніка; немаўлятам — па 1/2-1 лыжачцы напару, які можна дадаць у бутэльку з малаком або даць дзіцяці піць з лыжачкі.

### НАПАР ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

Раздробніць 1/2-1 лыжку насення кропу садовага, заліць 1 шклянкай кіпячай вады. Напарваць, як вышэй. Піць 1/3 - 1/2 шклянкі 2-3 разы ў дзень пасля яды пры нязначных парушэннях працы страўніка.

ЭСКУЛАП



# ВЕР-НЕ-ВЕР

Дзея адбываецца ў нашай рэдакцыі.

**Сакрат Яновіч:** Здароў, Стахвюк! А ты мне прысніўся. Быццам іду я па горадзе і сустракаю цябе. Затрымаліся мы на тратуары, думаю, зараз пагаворым. А ты неспадзявана адкручваеш сваю галаву і кладзеш яе на тратуар. Размова не адбылася. Га-га-га!

**Астрон:** Мо Віктар зрабіў гэта з рэспекту, мо са страху, а мо проста каб не пачынаць размовы і не мець з табою клопатаў, Сакраце!..

**Віктар Стахвюк:** Добра вам смяяцца, а тут напэўна нешта будзе. Бо не так даўно маёй жонцы прысніўся таксама макабрычны сон пра маю галаву. Быццам бы мы з сям'ёю былі на адпачынку ў Грэцыі, усе: я, жонка, дзеці. І была там мая група вадалазаў. Раптам землетрасенне. А здарылася яно з тае прычыны, што прыляцеў у Грэцыю касмічны карабель, такі нейкі дзіўны, вялізны. І менавіта гэта ён выклікаў землетрасенне. Адчыняюцца дзверы гэтага карабля, і выходзіць адтуль нейкі дзіўна апрануты чалавек, быццам мудрэц нязвыклы. Дакранаецца да майго ілба, і мая галава расколваецца напалавіну, а з яе ўсё відаць: жывы мозг і розная іншая рэшта, бр-р-р...

Астроне! Два сны пра мяне падобнага зместу не могуць нічога не значыць.

**Астрон:** Сапраўды, Віктар, і ў першым сне быў мудрэц — Сакрат, — перад якім ты адкруціў сваю галаву, і ў сне тваёй жонкі твая галава раскалолася пры дотыку мудраца, які прыляцеў касмічным караблём. Сцеражыся мудрацоў, Віктар!

## НЕПАТРЭБНЫЯ

Веся і Адам былі ў сабе закаханыя, як гаворацца, па самыя вушы. Калі Веся выпадкова зацяжарыла, Адам быў рады. Хутка пажаніліся. Адам казаў, што будзе, напэўна, сын.

— А што будзе, калі дачка? — дапытвалася Веся.

— Нічога, наступны будзе сын! — смяяўся Адам.

Перад Калядамі Веся нарадзіла дачку. Якраз на куццю Адам меўся забраць іх дадому. Кожны дзень прыходзіў з торбай поўнай ласункаў. У дзень выпісу прыйшлі бацькі з Адамам.

— Веся, пойдзеш жыць да бацькоў, — сумна сказаў Адам.

— Чаму? — здзіўлена паглядзела на мужа Веся.

— Я скрываў перад табою, што пакахаў іншую. Пазнаёміўся з ёю ў цягніку, едучы ў Варшаву. Рашыў я пачаць новае жыццё вось з ёю. Мы былі замаладыя, Веся, непатрэбна так рана звязаліся шлюбам...

— Значыць, мы з Агнешкай ужо для цябе непатрэбныя...

— Прабач, але так, — сказаў Адам і хутка выйшаў.

Веся спакойна афармляла ўсе справы ў бальніцы. Калі прыехала да бацькоў, магла цяпер паплакаць, але хто ж яе мог пацешыць?.. Сумная была гэтая куцця.

Веся дала згоду на развод. Адам плаціў аліменты рэгулярна.

Прайшлі два гады. Аднойчы хтосьці пазваніў у дзверы. Анямела! На парозе стаяў Адам. Сумны, худы, нейкі пастарэўшы.

— Дзень добры, Веся. Як там наша Агнешка?

— Чаго ад нас хочаш? Мы былі непатрэбнымі табе ў такі вечар, калі ўсе сем'і збіраюцца за сталом, нават для чужога ёсць там месца... Цяпер ты — непатрэбны нам.

— Прабач, Весенька. Я дурны быў, малады. Пайшоў за неадпаведнай жанчынай. Цяпер я ведаю, што такое... сапраўдная сям'я...

Веся, сціснуўшы зубы, зачыніла дзверы.

АЎРОРА




„Ніва"-ваш найлепшы прыяцель

*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

## ВЕСНАВЫ СУП

**Прадукты:**

*30-40 дэкаў дзіка растучых раслін (маладая крапіва, лебяда, шчаўе, малачай і т.п.),*
*1/2 пучка валашчыны,*
*1 сярэдняя цыбуліна,*
*2-3 бульбіны,*
*тлушч,*
*лаўровы лісток, соль, перац,*
*1 шклянка смятаны ці кіслага малака.*

Зеляніну памыць, пасячы ці прапусціць праз мясарубку і заліць кіпетнем. Можна дадаць булённую прыправу ці „магі". Цыбулю дробна пасячы і падсмажыць на алеі. Дадаць гародніну, сцертую на бурачанай тарцы, стушыць. Стушаную гародніну пакласці ў суп, дадаць нарэзаную кубікамі бульбу. На 5-10 мінут перад канцом гатавання дадаць лаўровы лісток. Запраўіць суп соллю і перцам. Перад падачай запраўіць смятанай ці кіслым малаком.

ГАСПАДЫНЯ

# КРЫЖАВАНКА

**УПОПЕРАК:** 3. прыток Обі, 8. белы хлеб, 9. афрыканская краіна, 10. для яго вуха, 11. пласкадоннае судна для пераправы цераз раку, 13. імя Барскага, 14. жонка сына, 15. едкі пах ад няпоўнага згарання, 19. нагаворшчык, 21. прастора паміж рэк,22. від папугая, 25. той, хто вельмі хутка ходзіць, 27. так на вяселлі просяць маладую пару пацалавацца, 28. слаўны фінскі стаер, 29. прыстасаванне для ўтрымання на месцы суднаў, 30. дзяржаўны лад у Расеі, Балгарыі, 31. дробныя крупы, 32. выраб з рэдкага цеста.

**УНІЗ:** 1. курадым, 2. напр. вінавальны, месны, 4. гродзенскі бард, 5. вялікі мяшок, 6. польская рака, 7. асноўнае насельніцтва Ірана, 12. гарадок, 13. музычны інструмент, 15. трэцяя літара грэчаскага алфавіта, 16. кветка, 17. горад у Індыі, 18. канадскі спявак, 20. горад у Японіі, 23. паласа выробленай скуры, 24. казачны асілак, 25. рэзкі гук, які ўзнікае пры трэнні, 26. еўрапейская рака, 29. вершаваны размер.

(ш)



Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку з 14 н-ра: **Упоперак:** вянок, Лёнік, атава, аса, актава, каліс, Аўстралія, Інд, эра, відэа, ролік, іва, сто, выдатніца, Хартум, актант, Юта, стоўб, скіны, цяжар. **Уніз:** вёска, гітара, яна, ода, Італія, твіст, спорт, Амстэрдам, калдобіна, Піліп, парог, два, экс, старт, Вітаўт, аптэка, Масты, Яніна, Юля, ара.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Лукаш Пацэвіч** з Беластока і **Мікалай Красоўскі** з Бельска-Падляшскага.




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцыляры), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка "Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1993 r. upływa 20 maja 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# МА КАТ РАЗМЫ

*Вятры белавежскія*

### ХАДЖЭННЕ ПА МУКАХ ЗМІТРАКА Ш.

І зноў я ў вёсцы роднай.
Іду, як туз, сяродкам.
Вітанне кіўком годным
Калгасным шлю сіроткам.
Не ў крыўдзе я на вас
(Ні ў сне, ні наяву),
Што вы мяне ў свой час
Саслалі над Няву.
Паверце, не кляну
Я нават той рэжым,
Што, учуўшы сатану,
Піхнуў мяне ў Рым.
Між Сцылай і Харыбдай
Каварнае ўлады
Караблікам прывідным
Праплыў я ў Эладу.
Палілі мяне сонцам
І люты Бармалей
У кволай пласкадонцы
Пусціў на здзек у Бамбей.
Хоць цяжка йшла навука
І муляла казна,
У блуканні па муках
Я сэнс быцця спазнаў.

**СІДАР МАКАЦЁР**

### БЫЛА Б ПЕСНЯ, А АРТЫКУЛ ЗНОЙДЗЕЦЦА

*(Тэксты прыведзены на мове арыгінала)*

1. **„Бери шинель, пошли домой"** (Артыкул 241 Крымінальнага кодэкса. „Дэзерцірства").
2. **„Била мене мати березовым прутом"** (Арт. 106 КК „Наўмыснае цялеснае пашкоджанне").
3. **„Выхожу один я на дорогу..."** (Арт. 142 КК „Рабаўніцтва").
4. **„Если ты меня разлюбишь, в тот же вечер я умру"** (Арт. 99 КК „Давядзенне да самазабойства").
5. **„И за борт ее бросает в набежавшую волну"** (Арт. 228 КК „Забруджванне вадаёмаў").
6. **„Паренек кудрявый прошептал три слова..."** (Арт. 206 КК „Хуліганства").
7. **„Подари мне платок..."** (Арт. 71 КК „Правакацыя хабару").
8. **„Ты покинул берег свой родной"** (Арт. 56 КК „Здрада Радзіме").

**Усевалад Максімкаў**
*„Звязда"*

## СЕНТЭНЦЫІ

Ад смагі не забрудзіцца крынічная вада.

* * *

Пустая кішэнь не завядзе на рынак.

* * *

Час-абжора хціва глытае самога сябе.

* * *

Як ні старайся, а іскры божай не выкрасаеш.

* * *

Малады бачыць толькі столь, а стары — падлогу.

**БАРЫС РУСКО**

# НІЎКА

Riga
LATVIA
Baltic Sea
LITHUANIA
Vilnius
Gdansk
Dvina
Minsk
Bialystok
Lipowy Most
Łódź
Warsaw
Brest
Byelorussia
Pripyat
Lublin
POLAND
Kiev
UKRAINE
Puzscza
Boundaries since 1945 (Yalta)
Boundaries in 1939

Гэтая мапка — з амерыканскага квартальніка „Granta" (н-р 30, 1990 г.). Яна паказвае, як амерыканцы (і ўвогуле тыя з „гнілога Захаду") арыентуюцца ў геаграфіі Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. Польшча для іх знаходзіцца недзе ў Трансільваніі, а Дзвіна ўліваецца ў Балтыку каля Гданьска. Як ні дзіва — Беларусь, больш-менш, на месцы (з такімі магутнымі населенымі пунктамі як Менск і Ліпавы Мост).

## МЫ ПАЧУЛІ

Што такое *экуменізм* у Беластоку?

Гэтае панятце можна заключыць у адну фразу: *Nieważne czy jesteś katolikiem, czy prawosławnym — ważne, abyś był dobrym Polakiem.*

* * *

Пасля непрадуманага заяўлення Яна Чыквіна ў Міністэрстве культуры і мастацтва ў Варшаве, што „Белавежа" апублікавала 100 кніжак, да нас дайшло кружнымі шляхамі заклапочанае пытанне з Варшавы: *Czy nie za dużo nasi Białorusini wydają książek?*

* * *

Нашы бабулькі гадуюць унукаў з адмысловымі імёнамі: Robert, Beata, Patrycja, Ksymena, Dorota. Язык не паварочваецца, каб вымавіць гэтыя дзікія найменаванні, таму яны карыстаюцца больш свойскімі крыптонімамі:
Robert — Ровер
Beata — Бэтка
Patrycja — Пятрушка
Ksymena — Цымента
Dorota — мабыць, і Да(рота), але ўзнікаюць сумненні, чаму не Да(носа)?

* * *

На новы самаход, што прадукуюць для насельніцтва ў Польшчы — *cinquecento* — у Махнатым кажуць „Чан Кай-шэк".

* * *

Новы сярэдні клас у Польшчы: *беспрацоўны бізнесмен*. Гэта той, хто не мае працы, не мае засілку для беспрацоўных, і ад роспачы заняўся бізнесам.

* * *

Пытанне: Хто найбольшы вораг беларусаў?

Алег Латышонак: Першы наш вораг — *гарэлка*. А ўжо другі — *камуна*.

*УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА*

## ЯК АСІЛАК ЯНКА ГУВНЯЖА ПЕРАМОГ

*(беларуская казка)*

Жыў да быў у адным каралеўстве асілак. Звалі яго Янкам. І быў ён такі дужы, што мог за адзін раз вядро гарэлкі выпіць, смажыным вепруком заесці, а потым цэлую дубраву з каранямі павыдзіраць. Шмат подзвігаў здзейсніў Янка за сваё жыццё: трохгаловага цмока злавіў ды на ланцуг пасадзіў, шасцігаловага забіў кулаком, зрабіў чучала ды на градах яго паставіў, а дзевяцігаловы, як дазнаўся, што асілак яго шукае, дык заскуголіў і ў жаху ўцёк у суседняе каралеўства.

Атрымаў Янка, як і мае быць, за свае подзвігі палову каралеўства ва ўзнагароду, і ляжыць на печы, семкі лузгае. Дзень ляжыць, другі дзень, трэці... Засумаваў асілак без працы. Паклаў ён у мех пуд сала ды бядон самагону, узваліў яго на плечы і пайшоў, куды вочы глядзяць — прыгодаў сабе шукаць.

Доўга ішоў асілак, і прыйшоў, нарэшце, у цёмны-цёмны лес. Скінуў Янка торбу на зямлю, і толькі сабраўся выпіць да закусіць, як бачыць — падыходзіць да яго Гувняж і кажа: „Хоць ты, Янка, і вялікі асілак, хоць ты і трох цмокаў перамог, але ж я ўсё адно найдужэйшы за цябе". „Ах ты, такі-сякі Гувняж, — адказвае Янка,— як гэта ты можаш быць найдужэйшы за мяне?..", а Гувняж ізноў кажа: „А калі не верыш, дык давай пакінем гэтую спрэчку і падужаемся. Тады і ўбачма, хто найдужэйшы..." „Згода, — вырашыў Янка, — давай падужаемся..."

Дужаліся яны тры дні, дужаліся тры начы. Нарэшце, перамог Янка Гувняжа і з'еў яго.

* * *

І вось так заўсёды ў нас на Беларусі: дабро перамагае зло.

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Не магу цябе зразумець. Ужо гадоў дзесяць чытаю я твае парады, і кожны раз бачу цябе інакш. Адзін раз ты раіш адно, другі раз - другое (найгорш - што ў падобных выпадках). То ты раіла захоўваць дыскрэтнасць; калі жонка нават падазравала мужа, ты пісала, што лепш не падаваць выгляду, што яна нешта ведае, бо так будзе лепш, а муж пагуляе ды і так дахаты вернецца.

Цяпер ты раіш, каб жонка ўсё ж праверыла, што парабляе яе муж, калі адлучаецца з хаты. Дык як жа гэта так? Няма нейкіх аднолькавых крытэрыяў у гэтых справах?!

І яшчэ што мне не падабаецца, дык гэта тое, што ты неяк ніколі не адказваеш канкрэтна, на сто працэнтаў. Ці ты вагаешся, ці фактычна нічога так папраўдзе не ведаеш? У цябе людзі про2сяць рады, дык ты і адказвай! А ты б усё віляла...

Падумай добра, Сэрцайка, ці варта прадаўжаць сваю дзейнасць, тым больш, што ты вельмі няроўнае - адзін раз у цябе гэта амаль парнаграфічная сцэнка, другі раз "тайны" нейкія зусім вучнёўскія, так што і чытаць амаль няма чаго.

Сэрцайка, прызнаюся табе: я "Сардэчныя тайны" чытаў гадоў дзесяць, ад іх заўсёды пачынаў чытаць "Ніву", а на канец, прачытаўшы ўсю газету, яшчэ раз перачытваў, але часам ты мяне даводзіш да шаленства. Асабліва, калі раіш, каб жонка пільнавала мужа і выпытвала пра яго ў сябровак...

А так, чаму ж не, мажа і далей яшчэ пачытаю.

**Сцяпан**

Мілы Сцяпанка! А па якому шаблону, на тваю думку, Сэрцайка мае адказваць? Па твайму, майму, ці ягонаму? У кожнай сітуацыі - іншы адказ. Кожны лёс - гэта іншая паэма. І чалавек чалавеку няроўны. Тысячы людзей здраджваюць сваім мужам і жонкам, а тыя, не ведаючы пра гэта, адчуваюць сябе цалкам моцна. Але вось жонка заўважыла намацальную здраду: муж змяніўся, не пазнаць яго, не бывае ў хаце, ездзіць без жонкі і дзяцей на адпачынак, хоць робіць выгляд, што нічога не здарылася. Жонка не знаходзіць сабе месца. Адчувае, што тут замешана баба. Дык што, мучыцца ёй далей, свядома здаючыся на яго ласку ці няласку?! А ты, Сцяпане, быццам бы баішся такой праверкі?!

Цяпер наконт тых тваіх ста працэнтаў. У ста працэнтах я ведаю толькі, што памру (і ты таксама). У іншых справах жыццё нясе вялікія неспадзяванкі, і як яно павернецца, сказаць напэўна немагчыма. Можна толькі выказваць нейкія меркаванні і падаваць магчымыя варыянты. Але Сэрцайка - не Бог.

А ты, Сцяпанку, бачу, любіш усё ж "вострыя" тэмы. Я б усё табе зрабіла, але ж не ўсе гэта любяць. Адны гідзяцца такімі тэмамі, іншыя непакояцца, што дзеці прачытаюць. І як жа тут быць? Хацелася ж бы дагадзіць кожнаму.

Мушу, дарагі Сцяпанка, з лістоў выбіраць рознатэматычныя, каб было часамі весела, а часам і сумнавата. Бо жыццё, яно, ведаеш, такое. Раз спяваеш - раз плачаш. Раз цяпло - раз холад. Каб было нармальна.

**СЭРЦАЙКА**